# наша свабода

№31(258) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 САКАВІКА 2002 году СЕРАДА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ

## 10 сутак для Статкевіча

Лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч арыштаваны на 10 сутак.

18 сакавіка у судзе Савецкага раёну г. Мінску адбыўся суд над М.Статкевічам, якога абвінавачвалі па арт. 167[3] ч.2 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэннях РБ за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі). У выніку судовага разгляду М.Статкевіч быў прызнаны вінаватым у парушэнні адміністрацыйнага заканадаўства і атрымаў пакаранне ў выглядзе 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

**ГА ПЦ «Вясна»**

## Павел Барадзін супраць Аляксандра Лукашэнкі

Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы лічыць, што пост прэзідэнта Беларусі – лішні.

13 сакавіка, знаходзячыся з рабочым візітам у Магілёве, дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін заявіў мясцовым журналістам літаральна наступнае (цытуем згодна з афіцыйнай газетай «Звязда»): «Такім чынам, мы жывём у адной краіне. Проста ў нас стала шмат прэзідэнтаў, рэзідэнцый, сцягоў, гербаў, гімнаў, сустрэч і размоў. А народ у нас як быў адзін, так і застаўся. Ад Магілёва да Уладзівастоку і Львова мы ўсё роўна адна краіна». Гэтая заява была зроблена на тэрыторыі Беларусі, чыё кіраўніцтва цяпер заклапочана прыняццём новага дзяржаўнага гімну замест старога «Мы, беларусы, з братняю Руссю», прычым напярэдадні адэскай сустрэчы прэзідэнтаў Расіі, Украіны і Малдовы. Паколькі відавочна, што супраць Уладзіміра Пуціна спадар Барадзін не выступае, значыць, лішнімі ён лічыць Лукашэнку, Кучму і Вароніна.

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс»**

# Алімпійскае «золата» для Беларусі





*На VIII зімовых Паралімпійскіх гульнях беларуская каманда здабыла два медалі – залаты і сярэбраны. У абодвух выпадках адзначылася 33-гадовая спартсменка Ядвіга Скарабагатая.*

Традыцыя праводзіць спартовыя спаборніцтвы для асобаў з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі або інвалідаў узнікла пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. У 1948 годзе сэр Людвіг Гутман арганізаваў і правёў у Стоўк-Мандэвілі (Вялікабрытанія) спаборніцтва для ветэранаў вайны з пашкоджаным хрыбетнікам. Праз чатыры гады ў турніры паўдзельнічалі спартоўцы-інваліды з Галандыі, і такім чынам нарадзіўся рух паралімпізму, піша сайт *www.paralympic.org*.

Першыя гульні ў алімпійскім стылі для інвалідаў наладзілі ў Рыме ў 1960 годзе. Праз 16 гадоў пачалі праводзіцца і зімовыя Паралімпійскія гульні. У 1976 годзе паралімпійцаў прымаў шведскі горад Арнскольдвік. Ужо дзесяць гадоў, як Паралімпійскія гульні праводзяцца ў тых самых гарадах, на тых самых пляцоўках, што і гульні Алімпійскія. Гэта служыць яшчэ адным напамінам пра тое, што людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі нічым не адрозніваюцца ад нас.

7 сакавіка спартоўцаў-інвалідаў прымаў Солт-Лэйк-Сіці. Усяго на спаборніцтвы з'ехаліся 415 спартоўцаў з 36 краінаў свету.

Беларусь прадстаўлялі чатыры чалавекі. Усе яны вартыя таго, каб мы іх ведалі. Вось іхныя імёны: Ядвіга Скорабагатая (33 гады), Васіль Шапцябой (22 гады), Сяргей Сільчанка і Віктар Жукоўскі (абодвум па 31 году).

Я.Скорабагатая і В.Жукоўскі маюць ужо досвед удзелу ў Алімпійскіх гульнях – яны ездзілі ў японскае Нагана чатыры гады таму. Праўда, медалёў ім тады не дасталося.

Сёлета вынікі беларускай каманды значна больш паспяховыя. Усе нашы паралімпійцы выступалі ў лыжных гонках.

Гэтае спаборніцтва мае тры віды дыстанцый: кароткая, сярэдняя і доўгая. Спартоўцы, што маюць праблемы з апорна-рухальным апаратам, выкарыстоўваюць адмысловыя санкі з прымацаванымі да іх лыжамі. Паралімпійцы з ампутаванай рукой самі стаяць на лыжах і рухаюцца, выкарыстоўваючы толькі адну палку. Спартоўцу са слабым зрокам дапамагае «гайд» (павадыр).

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



## Гвалт «па законе»

Заўтра, 21 сакавіка, у 11 гадзінаў рашэннем суда Кастрычніцкага раёна горада Гродна прызначана прымусовае выняцце маёмасці Міколы Маркевіча, галоўнага рэдактара забароненай уладамі газеты ПАГОНЯ. Гэтае рашэнне суддзя Л. Жук прыняла ў сувязі з тым, што скончыўся тэрмін добраахвотнай аплаты штрафу ў памеры 500 тысяч рублёў, вынесенага журналісту за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце пратэсту супраць закрыцця газеты.

Нагадаем, што 11 лютага ў забеспячэнне штрафу судовы выканаўца суда Кастрычніцкага раёна Гродна М. Мельнікава апісала ў кватэры Маркевіча мікрахвалевую печку, пральную машыну, прас, пыласмок, манітор і клавіятуру камп'ютэра, прынтэр. Менавіта гэтую тэхніку і плануецца забраць 21 сакавіка.

«Дзеля забеспячэння правапарадку» па адрасе, дзе пражывае Мікола Маркевіч, прыбудзе нарад міліцыі.

## Свята канваіраў і ахоўнікаў парадку

18 сакавіка адзначылі сваё прафесійнае свята супрацоўнікі Унутраных войскаў Беларусі. Сваю гісторыю яны вядуць ад 18 сакавіка 1918 году, калі ў Віцебску была створана канвойная рота з 23 чалавек. Цяпер функцыі Унутраных войскаў – гэта канваяванне і нагляд за зняволенымі, а таксама ахова грамадскага парадку.

## Беларусь спыніла імпарт «ножак Буша»

Як паведаміла радыё «Рацыя», Галоўнае ўпраўленне ветэрынарыі ўжо месяц не дае дазволу на ўвоз курынага мяса з ЗША, а тэрытарыяльныя санітарныя службы вядуць праверку імпартных кумпячкоў на прадмет заканчэння сальманелы. Аднак імпартаваныя раней кумпячкі па-ранейшаму прадаюць у крамах. Яны таннейшыя за беларускія: 1,5 даляра супраць 2-х.

## Украінскае абсталяванне для Бярозаўскай ДРЭС

Канцэрн «Белэнерга» падпісаў кантракт з навукова-вытворчым комплексам газатурбабудавання «Зара–Машпраект» з украінскага Нікалаева на выраб і пастаўку чатырох камплектаў газатурбінных установак. Гэта зроблена ў рамках праекту па рэканструкцыі Бярозаўскай ДРЭС, які прадугледжвае дадатковае абсталяванне ўжо існуючых энергаблокаў чатырма газавымі турбінамі па 25 мегават.




Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# Адпалохваем інвестараў?

*Расійская кампанія «Мобильные ТелеСистемы» (МТС) стала другім пасля «Балтыкі» замежным інвестарам, які купіўся на абяцанкі беларускага кіраўніцтва. Унёсак у беларускі бюджэт у памеры 10 мільёнаў даляраў быў зроблены яшчэ некалькі месяцаў таму. Але з-за прамаруджвання з боку Аляксандра Лукашэнкі кампанія рызыкуе пачаць сваю працу ў Беларусі пазней, чым планавалася.*

Як паведаміла ўчора расійская газета *Ведомости*, беларускі кіраўнік па незразумелых прычынах не дае згоды на рэгістрацыю сумеснага прадпрыемства «*Мобильных ТелеСистем*» і дзяржаўнага прадпрыемства «Міжгародняя сувязь». Паводле нашага заканадаўства, згода прэзідэнта патрэбная заўсёды, калі ў склад сумеснага прадпрыемства ўваходзіць дзяржаўная кампанія.

Аднак гэтай згоды дагэтуль няма, і ў выніку МТС рызыкуе страціць каля 10 мільёнаў даляраў. Столькі ж, дарэчы, спрабуе вярнуць сабе і «Балтыка», якая паспяшалася інвеставаць у «Крыніцу», не дачакаўшыся падпісання дамовы.

У верасні мінулага году Міністэрства сувязі Беларусі правяло тэндэр на атрыманне другой (і пакуль апошняй) ліцэнзіі на прадастаўленне паслугаў мабільнай сувязі на частаце *GSM*. У тэндэры бралі ўдзел 6 кампаніяў, але перамагла МТС. Яны прапанавалі інвеставаць у Беларусь 215 мільёнаў даляраў і ахапіць мабільнай сувяззю да 2005 году 500 000 чалавек. Да таго ж МТС дэкляравала ўдвая таннейшыя тарыфы ў параўнанні з цяперашнімі (што ад кампаніі «Мабільная лічбавая сувязь», гандлёвая марка *VELCOM*).

Расійскі бок ацэньвае ўмовы, на якіх мусіў атрымаць ліцэнзію, як выключна выгадныя для Беларусі. МТС атрымлівала 49% у сумесным прадпрыемстве (кантрольны пакет у 51% заставаўся дзяржаве). Першапачаткова ліцэнзія каштавала 5 мільёнаў даляраў. Аднак пазней МТС папрасілі «накінуць»: 2,5 мільёны даляраў спагналі ў якасці бонусу для беларускага бюджэту, а яшчэ 3 мільёны папрасілі на стварэнне недзяржаўнага фонду падтрымкі новых тэхналогіяў.

Віцэ-прэзідэнт МТС па інвестыцыях Аляксей Буянаў распавёў *Ведомостям*, што ўсяго з кампаніі спагналі больш за 10 мільёнаў даляраў.

*Заканчэнне на стар.3*

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

**1730**

## Навігацыя без пад'ёму

Хоць навігацыю на рэках Беларусі афіцыйна абвясцілі яшчэ з 15 сакавіка, але пакуль ніводзін транспартны плаўсродак не выйшаў з партоў у Гомелі, Мазыры, Пінску і Брэсце. У капітанаў буксірных цеплаходаў ёсць прычыны трымацца на якары, бо не створаны запас паліва і пустыя пакуль партфелі заказаў на перавалку грузаў. Аб'ёмы працы рачнікоў Палесся наўпрост залежаць ад тэмпаў будаўніцтва. І калі ў ранейшыя гады, прыкладам, толькі з радовішча граніту ў Мікашэвічах воднымі шляхамі вывозілі ў індустрыяльныя цэнтры больш як 2 мільёны кубаметраў будаўнічага шчэбеню, то зараз такой лічбы цягам 2002 году не складуць усе мінеральна-будаўнічыя грузы разам. У канкурэнцыі па дастаўцы невялікай колькасці сыравіны для малазагружаных заводаў жалезабетонных канструкцый перавагу маюць больш мабільныя аўтацягнікі і чыгунка.

У галіновым ведамстве рачнікоў, якое зараз падпарадкоўваецца Міністэрству транспарту, не лічаць, што так званы малы флот краіны сыдзе на нішто. Зараз на Пінскім суднабудаўнічым заводзе выпрабоўваецца арыгінальны праект карабля тыпу «рака-мора». Ёсць спадзяванні, што гэты транспарт будзе задзейнічаны на дастаўцы з Беларусі ў чарнаморскі порт у горадзе Нікалаеве калійных тукаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

## На «Дынама» пакуль гандлююць

Дырэктар унітарнага прадпрыемства «Дынама-спорт» Барыс Чалабаеў у інтэрв'ю БелаПАНу не пацвердзіў чутак аб закрыцці мінскага рэчавага рынку «Дынама» і пераносе яго на тэрыторыю аэрапорту «Мінск-1».

«Непацверджаныя матэрыялы ў прэсе непакояць прадпрымальнікаў і родзяць у іх пачуццё няўпэўненасці. Ніякіх дакументаў аб закрыцці альбо пераносе рынку «Дынама» ў нас няма», – сказаў Чалабаеў.

## Тэлефонныя шкоднікі

Памятаю, калі засяліўся сем гадоў таму ў мінскі мікрараён Малінаўка, каля майго дома было ажно 4 тэлефоны-аўтаматы. Чыннымі яны пратрымаліся ўсяго некалькі гадоў, цяпер засталіся толькі металічныя канструкцыі, на якіх калісьці мацаваліся апараты з лічбавым дыскам і слухаўкай. Гэта для сталічных ускраін і не толькі – звычайнае з'явішча. Хоць у цэнтры гораду сітуацыя лепшая: тэлефонаў тут і ламаецца меней, і рамантуюць іх хутка.

Тэлефонныя шкоднікі ламаюць грамадскія тэлефоны-аўтаматы па некалькі штук на дзень. А ў выходныя дні – суботу і нядзелю – псуецца болей за дзесятак таксафонаў. Усяго ж у Мінску больш як 5 тысяч тэлефонаў-аўтаматаў. Ламаюць сталічныя публічныя тэлефоны не толькі звычайныя хуліганы, а і людзі, расстроеныя тым, што ў іх правалілася ў тэлефон-аўтамат картка, і тыя, хто адмыслова палюе на тэлефонныя карткі ўнутры тэлефонных апаратаў.

За «наўмыснае пашкоджанне ці знішчэнне тэлефонаў-аўтаматаў» беларускае заканадаўства прадугледжвае штраф у памеры ад 5 да 10 мінімальных зарплат.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Гарадское радыё для Мінску

У Мінгарвыканкаме разлічваюць, што сёлета ў эфір выйдзе мінскае гарадское радыё. Хутчэй за ўсё яно ўвойдзе ў ЗАТ *«СТВ»*. З гэтага можна меркаваць, што новая радыёстанцыя будзе расійскамоўнай, як Сталічнае тэлебачанне і як газета *Минский курьер*. Між тым у Мінску ўжо існуе радыё «Сталіца», прычым беларускамоўнае. Такім чынам, сталічныя ўлады ствараюць яму расійскамоўнага канкурэнта.

Чакаюцца рэформы і на канале *СТВ*, які мае павялічыць сетку вяшчання, і ў газеце *Минский курьер*, якая плануе перайсці са штотыднёвага на штодзённы выхад.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## Рак у шахце

Скамянелага рака-скарпіёна, узрост якога адмыслоўцы вызначаюць у 350 мільёнаў гадоў, знайшлі шахцёры першага рудніка калійнага камбінату ў Салігорску. Разлапісты адбітак прыхадня са старажытнасці быў заўважаны ўгары штрэку пасля праходу ў ім солездабыўнога камбайна. Унікальны рэлікт выразалі з пласту і аддалі геолагам прадпрыемства, якія маюць намер перадаць яго ў Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

За чатыры дзесяцігоддзі распрацоўкі калійнага радовішча ў салігорскіх шахтах шмат разоў здараліся сустрэчы людзей з рэштканмі жывёлін і раслін. Знаўцы лічаць, што на месцы цяперашніх пакладаў калійнай солі было старажытнае мора.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Шклоўскіх хлопцаў спрабуюць выгнаць з ПТВ

Кіраўніцтва Магілёўскага палітэхнікуму, дзе навучаецца адзін з абвінавачаных у абразе Лукашэнкі Аляксандр Паўловіч, вырашыла пакараць «зубра» яшчэ да сканчэння судовага разбору. Педагагічная рада адбылася 12 сакавіка 2002 году ў Магілёўскім палітэхнікуме. Тэмай рады стала прапанова аб выключэнні з навучальнай установы актыўных удзельнікаў перадвыбарнай кампаніі Аляксандра Паўловіча і Аляксандра Каліты. Над Аляксандрам Паўловічам, актывістам руху ЗУБР, якраз скончыўся суд па крымінальнай справе за «абразу прэзідэнта Лукашэнкі». Аляксандра Каліту, сябра Моладзі АГП, некалькі разоў затрымлівалі мінулай вясной за распаўсюджванне ўлётак. Пытанне аб выключэнні было вынесена па ініцыятыве дырэктара палітэхнікуму Аляксандра Мікалаевіча Шапіцы, яго намесніцы Бансюковай, настаўніцы Жанны Васільеўны Алешчанкі і намесніка дырэктара па выхаваўчай працы Валерыя Пятровіча Ляўкова. Амаль усе ўдзельнікі рады падтрымалі гэтую прапанову. Выключэннем сталі шэсць чалавек, якія ўстрымаліся. Напярэдадні падзеі адбылася размова хлопцаў з дырэктарам. А.Каліта: «Дырэктар выклікаў мяне і сказаў: «*...если ты думаешь, что я не найду способа тебя законно исключить, то ты глубоко ошибаешься. Я поставлю тебя в такие рамки, что ты будешь бояться по техникуму пройти...*» Аляксандр запісаў усю гутарку на дыктафон. Прыкладна тое ж сп. Шапіца сказаў і Паўловічу, адразу пасля таго, як у дачыненні да яго была ўзбуджана крымінальная справа. Канчатковае рашэнне па выключэнні павінна прыняць камісія па справах непаўналетніх Ленінскага раёну, куды перашлюць дакументы хлопцаў. Пакуль жа абодва навучэнцы збіраюцца далей хадзіць на заняткі. Заяву пра гэта яны аднеслі дырэктару, але сакратарка адмовілася нават прыняць яе. Аднак гэта ніяк не паўплывае на рашэнне хлопцаў бараніць сваё права на адукацыю.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

## Беларуская армія рыхтуецца да маштабных вучэнняў

Ва Узброеных сілах Беларусі пачалася актыўная падрыхтоўка да прызначаных на канец траўня – пачатак чэрвеня комплексных аператыўна-тактычных вучэнняў. Як паведаміў БелаПАНу намеснік начальніка прэс-службы Міністэрства абароны Беларусі Леанід Захаранка, 18 сакавіка ў горад Барысаў, дзе знаходзіцца штаб Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання Узброеных сілаў, прыбыла комплексная камісія Мінабароны. Яе задача – «пракантраляваць ход падрыхтоўкі да вучэнняў і дапамагчы камандаванню ў вырашэнні практычных пытанняў». Вынікі працы камісіі падвядзе міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў.

Заходняе (Гродна) і Паўночна-заходняе (Барысаў) аператыўныя камандаванні былі створаны летась згодна з планам завяршэння рэфармавання Узброеных сілаў. У Мінабароны мяркуюць, што гэтыя камандаванні змогуць аб'яднаць намаганні ўсіх сілавых ведамстваў у зоне іх адказнасці, каб адбіць гіпатэтычную агрэсію супраць Беларусі. Упершыню ідэю «аб'яднанага камандавання» апрабавалі на вучэннях «Нёман'2001».

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## У школе трэба заплаціць

Канстытуцыйная ўстаноўка на ўсё бясплатнае ў школах адыходзіць на Брэстчыне ў нябыт. У адпаведнасці з накіраванымі «зверху» рэкамендацыямі аб платных паслугах, іх пачынаюць узаконьваць рашэннямі мясцовай «вертыкалі». Старшыня Баранавіцкага гарвыканкаму сп.Дзічкоўскі падпісаў распараджэнне з пералікам 18 відаў дапамогі бацькам і вучням, за якія з іх патрэбна спаганяць грашовую аплату. Кошт кожнага віду вызначаецца ў адпаведнасці з базавай велічынёй, якая на сёняшні дзень складае 10 тысяч рублёў.

Спіс спосабаў дадатковага фінансавага паджыўлення адукацыі пачынаецца з розных даведак, копій і дублікатаў. 20 тысяч рублёў у месяц давядзецца плаціць за дадатковыя заняткі са школьнікам па замежнай мове. Кансультацыі псіхолага і сацыяльнага педагога ацэньваюцца ў 5 тысяч рублёў. Тэставанне дзяцей у Цэнтры карэкцыі таксама каштуе 5 тысяч рублёў. Тарыфы па аплаце даведзены і да дзіцячых садкоў. Бацькам малалетак давядзецца зазірацьу свой кашалёк кожны раз, калі яны не забіраюць дачку ці сына ў вячэрні час альбо пакідаюць іх у казённай установе на выхадныя. За магчымасць пры гэтым атрымаць яшчэ 5 урокаў замежнай мовы паводле профілю выхаваўцы трэба заплаціць 10 тысяч рублёў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

### ЗДАРЭННІ

## Муляж выбуховага прыстасавання ва універсітэце

Вечарам 18 сакавіка службы міліцыі і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях шукалі выбуховае прыстасаванне ў галоўным корпусе Брэсцкага дзяржаўнага універсітэту, што размешчаны на бульвары Касманаўтаў.

Званок пра нібыта замініраванне паступіў на пульт дзяжурнага УУС па тэлефоне «02». Была праведзена эвакуацыя студэнтаў і выкладчыкаў. Выбуховае прыстасаванне не знойдзена.

Паводле інфармацыі начальніка дзяжурнай часці УУС Брэсцкага аблвыканкаму Сцяпана Мастыкі, сёлета гэта трэцяе такое здарэнне ў Брэсце. Прычым усе званкі былі зафіксаваныя ў сакавіку. Асобы тых, хто званіў у міліцыю, не ўстаноўлены. Летась у Брэсцкай вобласці пра нібыта замініраванне званілі ў міліцыю 19 разоў. Па ўсіх фактах узбуджаны крымінальныя справы. Шэсць асобаў былі ўстаноўлены, гэтыя людзі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## П'яныя вочы сігналізацыі не бачаць

17 сакавіка ў вёсцы Чырвоны Бераг Жлобінскага раёну Гомельскай вобласці ў 11.25 на чыгуначным пераездзе, які не меў аховы, але спраўнай гукавой і светлавой сігналізацыі адбылося сутыкненне грузавога цягніка № 3312 «Асіповічы-Жлобін» з аўтамашынай «мерседэс», якая выехала на чыгуначныя пуці. Пра гэта БелаПАНу паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі. Легкавым аўтамабілем кіраваў у нецвярозым стане непрацуючы жыхар вёскі Радуша Жлобінскага раёну, 1974 году нараджэння. У выніку дарожна-транспартнага здарэння вадзіцель з цялеснымі пашкоджаннямі змешчаны ў бальніцу, а пасажырка, якая з ім ехала, – жыхарка вёскі Чырвоны Бераг, 1983 году нараджэння, – загінула. Затрымка ў руху цягнікоў склала 25 хвілін.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Трактар урэзаўся ў цягнік

18 сакавіка на пераездзе станцыі Чырвонае Знамя Смалявіцкага раёну трактар МТЗ-82 сутыкнуўся з цягніком № 11 «Берлін–Масква». Аварыя адбылася на 701-м кіламетры чыгуначнага ўчастка Брэст-Масква.

Як паведамілі БелаПАНу ў прэс-службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, на чыгуначным пераездзе ў трактара сапсавалася тармазная сістэма, у выніку чаго МТЗ-82 на чырвоны сігнал семафораў выехаў на чыгуначнае палатно, укліністыўшыся паміж лакаматывам і першым вагонам чыгуначнага саставу. 36-гадовы вадзіцель трактара не паспеў выскачыць з салону да сутыкнення, тым не менш ён цудам не толькі застаўся жывы, але нават не пацярпеў. Што тычыцца трактара, то ён пашкоджаны настолькі, што не падлягае аднаўленню.

Пацярпеў і лакаматыў пасажырскага саставу, які следаваў з Берліну ў Маскву. З-за пашкоджання дзвюх акумулятарных батарэй састаў адбуксавалі на чыгуначную станцыю Жодзіна, дзе была праведзена замена лакаматыва. З паўтарагадзіннай затрымкай ужо з Жодзіна састаў выправіўся па сваім маршруце. З-за сутыкнення на паўтары гадзіны быў спынены рух чыгуначнага транспарту па адной калеі ўчастка.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Вясновыя палы

Паводле інфармацыі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, у Брэсцкай вобласці зарэгістравана 46 выпадкаў вясновых палаў, 26 з іх – на працягу мінулых выходных.

У мінулыя выходныя супрацоўнікам МНС упершыню сёлета прыйшлося выязджаць і на тушэнне ляснога пажару – каля вёскі Чыжэўшчына Жабінкаўскага раёну. Згарэла 0,5 гектара лесу. Непадалёк ад торфабрыкетнага заводу знайшлі абгарэлага нецвярозага мужчыну 50 гадоў. Ад апёкаў 98 працэнтаў цела ён памёр у бальніцы.

У размове з карэспандэнтам БелаПАНу кандыдат біялагічных навук Георгій Казулька заявіў, што палы наносяць непапраўны ўрон жывой прыродзе. У агні згараюць карысныя насякомыя, у тым ліку і занесеныя ў Чырвоную кнігу, а таксама насенне кветкавых раслін. Таму зніжаецца колькасць і разнастайнасць кветак. Пустазелле, наадварот, дзякуючы здольнасці размнажацца вегетатыўна выжывае і разрастаецца.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

### НАШЫ МЯСТЭЧКІ. ЧАЧЭРСК



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Алімпійскае «золата» для Беларусі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Ядвіга Скорабагатая перамагла ў лыжнай гонцы на кароткую дыстанцыю і была другой – на сярэдняй і пятай – на доўгай.

Віктар Жукоўскі быў 14-м на кароткай дыстанцыі і 6-м – на сярэдняй і доўгай. Найлепшы вынік Васіля Шапцябоя – чацвёртае месца на сярэдняй дыстанцыі, на кароткай ён прыйшоў пятым, а на доўгай – 7-м. Гэта вельмі добрыя вынікі для 22-гадовага хлопца. Сяргей Сільчанка, які спаборнічаў у іншай катэгорыі спартоўцаў, быў 5-м на сярэдняй і доўгай дыстанцыях і 8-м – на кароткай.

Не можам не ўзгадаць і імя чалавека, які дапамог Ядвізе Скорабагатай заваяваць «золата» і «срэбра» – гэта яе «гайд» Васіль Гаўруковіч.

Цяпер нашы паралімпійцы вяртаюцца на радзіму. Урад паабяцаў ім за перамогу сумы, у некалькі разоў меншыя за алімпійскія «прэміі». Параўнайце самі: алімпійскае «золата» каштуе ў нас 60 000 даляраў, а паралімпійскае – толькі 7 500, «срэбра», адпаведна, 30 000 і 3 750, «бронза» – 22 500 і 2 800. Вядома, нават у такіх памерах гэта шалёныя грошы для любога беларуса. Аднак фінансавая дыскрымінацыя навідавоку. Чыноўнікі ад спорту такім чынам нагадваюць паралімпійцам, што колькі б яны ні рабілі высілкаў, каб даказаць сваю паўнавартаснасць для грамадства, але такімі ж, як здаровыя алімпійскія чэмпіёны, ім не быць ніколі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Ядвіга Скорабагатая, Віктар Жукоўскі, Васіль Шапцябой і Сяргей Сільчанка

## Абаронім Ірак ад амерыканскіх бамбаванняў

Беларусь зацікаўлена не толькі ў палітычным, але і ў гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве з такой багатай краінай, як Ірак. Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў падчас сустрэчы з намеснікам прэм'ер-міністра Іраку Хікматам аль-Азаві. Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, А.Лукашэнка пацвердзіў гатоўнасць беларускага боку выконваць усе раней прынятыя абавязанні, у тым ліку дасягнутыя ў рамках працы сумеснай беларуска-іракскай камісіі.

«Наша рэспубліка заўсёды паслядоўна выступала і будзе выступаць супраць санкцый, якія цяперашнім часам прымяняюцца ў дачыненні да Іраку», – заявіў кіраўнік дзяржавы. На думку Аляксандра Лукашэнкі, гэтыя санкцыі павінны быць адменены, бо яны наносяць жорсткі ўдар па насельніцтве краіны. Прэзідэнт Беларусі катэгарычна выказаўся таксама супраць ваеннага ціску на Ірак і нанясення ракетных удараў па тэрыторыі гэтай дзяржавы. «Мы заўсёды будзем прытрымлівацца такой лініі», – заявіў Лукашэнка. Хікмат аль-Азаві выказаў упэўненасць у тым, што беларуска-іракскія стасункі будуць плённа развівацца.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**



Фота IREX/ProMedia

## «Рабочы» павіс у пракуратуры Беларусі

Следам за перадачай 11 сакавіка крымінальнай справы па абвінавачанні журналістаў гродзенскай «Пагоні» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі ў паклёпе на прэзідэнта журналісцкі бамонд з трывогай чакаў пашырэння крымінальнага пераследу незалежных СМІ. Меркавалася, што яшчэ тыдзень таму крымінальная справа па факце змяшчэння ў газеце «Рабочы» матэрыялу *«Вор должен сидеть в тюрьме!»*, у якой пракуратура Савецкага раёну Мінску ўгледзела гэтаксама паклёп на прэзідэнта, пойдзе ў суд. Аднак справу па матэрыяле ў «Рабочым» запатрабавала пракуратура Беларусі, дзе яна і павісла.

Сітуацыю каментуе галоўны рэдактар «Рабочага» Віктар Івашкевіч. «На пазамінулым тыдні следчы пракуратуры Савецкага раёну Мінску, што вядзе справу па факце змяшчэння ў газеце «Рабочы» матэрыялаў, якія расцэньваюцца як паклёп на прэзідэнта РБ, выклікаў мяне і паказаў дакументы на перадачу справы ў суд. Але ў сувязі з тым, што тыраж газеты быў арыштаваны непасрэдна ў друкарні і распаўсюджванне не адбылося, то ідзе фармулёўка «спроба распаўсюджвання паклёпу». Гэты артыкул прадугледжвае такое ж пакаранне, што і за здзейсненае распаўсюджванне, але па судовай практыцы, як мне было сказана, ужываецца найменшае пакаранне з прадугледжаных. У канцы дня, калі я прыехаў да следчага, ён сказаў мне, што не можа даць падпісаць абвінавачанне, бо ў яго запатрабавалі справу ў пракуратуру Беларусі. Больш за тыдзень чакаем адказу, але ні чуткі ні прачуткі. І чаму такая затрымка – ці то яны збіраюцца перагледзець справу, ці то перадаць на даследаванне, ці то змяніць абвінавачанне – следчы не ведае, і мне невядома», – сказаў Віктар Івашкевіч.

**Рыгор БУЯН**

## «Вясну» абрабавалі

У ноч з 16 на 17 сакавіка невядомыя ўзламалі замок у кватэры, дзе месціцца офіс Брэсцкага абласнога аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна», і вынеслі два камп'ютэры, два маніторы, прынтэр, тэлефон-факс, ксеракс, стабілізатар, мадэм, сканер, два дыктафоны, фотаапарат, зараднае прыстасаванне, магнітафон.

Па факце крадзяжу камп'ютэрнай тэхнікі ўзбуджаная крымінальная справа па ч.3. арт.205 КК РБ.

**ПЦ «Вясна»**

# Адпалохваем інвестараў?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Аднак і пасля гэтага не з'явілася ўрадавага дазволу на адкрыццё СП.

Прадстаўнікі сотавага апарата тлумачаць, што, паводле ўмоваў ліцэнзіі, яны маглі б пачынаць працаваць на рынку ўжо з 17 красавіка. Крыніцы ўва ўрадзе кажуць, што ніякіх праблемаў для рэгістрацыі СП няма, усе неабходныя паперы ляжаць гатовыя ў Міністэрстве замежных справаў. Патрэбная толькі санкцыя прэзідэнта на тое, каб «Міжнародная сувязь» унесла сваю валютную долю ў статутны капітал сумеснага прадпрыемства. Але яе так і няма.

З-за таго, што СП «МТС-Беларусь» юрыдычна яшчэ не існуе, быў замарожаны кантракт з *Siemens* на пастаўку абсталявання для будаўніцтва сеткі сувязі. *Siemens* выйграў тэндэр летась, але паставіць абсталяванне не можа.

Цяпер адмыслоўцы мяркуюць, што першая базавая станцыя МТСаўскай сеткі ў Беларусі можа запрацаваць не раней за травень – і нават гэта няпэўна.

Тым часам, зрушыўся з «мёртвага месца» праект па магчымай прыватызацыі «Балтыкай» «Крыніцы». 13 сакавіка паўнамоцныя прадстаўнікі беларускага ўраду перадалі кіраўніцтву расійскай кампаніі праект інвестыцыйнага пагаднення аб рэканструкцыі «Крыніцы». Пра гэта паведаміў *РИА «Новости»* прэзідэнт «Балтыкі» Тэймураз Балоеў.

Па ягоных словах, цяпер на працягу месяца будзе весціся ўзгадненне крыніцаў і ўмоваў фінансавання праекту. Кансультацыі юрыстаў і эканамістаў ужо пачаліся.

На думку Т.Балоева, беларускі піўны рынак вельмі перспектыўны, бо сярэдняе штогадовае спажыванне ў нас – 26 літраў на чалавека, тады як у Расіі гэты паказчык складае 41 літр. Апроч таго, вытворчасць піва ў Беларусі «можа быць» таннейшай, чым у Расіі, і, адпаведна, тэарэтычна магчымыя пастаўкі беларускай «Балтыкі» на расійскі рынак.

Паводле звестак *ПРАЙМ-ТАСС*, урад Беларусі плануе перадаць «Балтыцы» 50% плюс адну акцыю «Крыніцы» ў тры этапы. На першым этапе расійскі інвестар зможа атрымаць 30% акцыяў, пры гэтым ад яго патрабуецца інвеставаць у рэканструкцыю заводу 11,15 мільёна даляраў у выглядзе доўгатэрміновага крэдыту і яшчэ 13,35 мільёна даляраў за акцыі дадатковай эмісіі.

На другім этапе «Балтыка» атрымае 37,9% акцыяў. Пры гэтым памер інвестыцыяў у «Крыніцу» мусіць дасягнуць 50 мільёнаў даляраў.

Што да кантрольнага пакету, то яго «Балтыка» атрымае толькі пасля выхаду абноўленай «Крыніцы» на праектную магутнасць. Доля беларускай дзяржавы ў бровары тады застанецца 25% (цяпер – 90%).

У адпаведнасці з інвестыцыйным праектам, у перыяд з 2003 да 2005 году «Балтыка» мусіць штогадова інвеставаць у сельскую гаспадарку Беларусі па 2 мільёны даляраў. Пасля 2005 году гэтыя інвестыцыі мусяць складаць 5 мільёнаў даляраў штогадова. Тэарэтычна, усе гэтыя інвестыцыі – на зваротнай аснове, але як нашыя калгасы і саўгасы вяртаюць пазыкі і крэдыты, даўно вядома. За «Балтыкай» замацоўваюцца пэўныя зоны, дзе будзе вырошчвацца ячмень. Кампанія мусіць узяць на сябе абавязак выкарыстоўваць на «Крыніцы» выключна беларускі ячмень.

Апроч таго, расійская кампанія мусіць пабудаваць за свой кошт і падараваць Беларусі лядовы палац на стадыёне «Трактар». Праект будзе каштаваць каля 2,65 мільёна даляраў. Тэрмін пабудовы чарговага лядовага палацу – 16 месяцаў.

Расійскаму бровару прапанавалі перааформіць кароткатэрміновы заём у памеры 10,5 мільёна даляраў, выдадзены «Крыніцы» на рэканструкцыю, у доўгатэрміновы – з разлікам вяртання праз 5-6 гадоў. Паводле папярэдніх дамоўленасцяў, «Крыніца» мусіла пачынаць вяртаць крэдыт ужо ў студзені. Асобна беларускія ўлады абумовілі адказнасць «Балтыкі» за невыкананне гэтых умоваў. Урад настойвае, што ў такім выпадку інвестара пазбавяць часткі акцыяў, з-за чаго кампанія страціць свой кантроль над броварам.

Невядома, што вырашыць «Балтыка» пасля вывучэння прапановаў беларускага ўраду. Спачатку (пакуль у рэканструкцыю «Крыніцы» не было ўкладзена 10,5 мільёнаў даляраў) умовы былі зусім іншыя. Фактычна, цяпер Т.Балоеву з намеснікамі трэба вырашыць, што танней для іхняй кампаніі: падпісаць пагадненне на беларускіх умовах або развітацца з укладзенымі 10 мільёнамі і сысці назаўсёды.

Цалкам магчыма, што, паглядзеўшы на сумны прыклад МТС і «Балтыкі», іншыя інвестары могуць проста не прыйсці. І тады ўся гучна разрэкламаваная «прыватызацыя для расіянаў» скончыцца.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## СВОЙ ГОЛАС

***– Ці адзначалі Вы 15 сакавіка Дзень Канстытуцыі і ці збіраецеся нейкім чынам святкаваць 25 сакавіка Дзень Волі?***



**Аляксандр, інжынер:**
– Не, Канстытуцыю не адзначаў. І Дзень абвяшчэння БНР таксама спраўляць не планую. Я Дзень Канстытуцыі, напрыклад, прызнаю за свята, але проста няма ў мяне традыцыі адзначаць яго.



**Васіль Пятровіч, кіроўца:**
– Дзень Волі не буду, а Дзень Канстытуцыі адзначаў: як нармальныя беларусы, па сто грамаў выпілі.



**Алена, бухгалтар:**
– На Дзень Волі можа і збярэмся, пасядзім кампаніяй трохі.



**Людміла Фёдараўна:**
– Будзем-будзем. Прынамсі, успомнім.



**Іван Пятровіч, пенсіянер:**
– Нешта я не заўважыў гэтага Дня Канстытуцыі. Фактычна свята няма, бо выхаднога ў гэты дзень няма. Вунь у Расіі, там ёсць.



**Ігар:**
– Не, часу на гэта не маю.



**Аляксандр, студэнт архітэктурна-будаўнічага тэхнікуму:**
– Не адзначаў і не буду, бо не хачу. У мяне да гэтага ніякай цікавасці няма.



**Саша:**
– Не буду. Прынцыпова. Я прынцыпова адзначаю толькі Новы год. І ўсё. Астатняе – гэта... Ну, няважна, дробязь.



**Таццяна, студэнтка:**
– Думаю, не. Шчыра сказаць, я нават не ўяўляла, што такі дзень ёсць.



**Алена, выкладчыца:**
– Відаць, не. З-за таго, што я досыць апалітычная. А мне здаецца, што гэта ўсё нейкія палітычныя гульні.



**Уладзімір Уладзіміравіч, выкладчык ВНУ:**
– Натуральна, адзначаў і буду адзначаць. Як звычайна: пайду ў «Акіян», рыбкі добрай вазьму, засмажым, пасядзім.



**Анатоль, кіроўца:**
– Не, не адзначаў. Не ведаў проста. Я пра гэты Дзень Канстытуцыі як дазнаўся? Бо пабачыў, што на Кастрычніцкай плошчы нешта рыхтуюць, як да свята якога. Спытаўся – мне адказалі, што да Дня Канстытуцыі.



**Наталля Станіславаўна, настаўніца:**
– Адзначала, адзначала. 15 сакавіка і Дзень Канстытуцыі, і гадавіна ў мяне была – залатое вяселле ў бацькоў. Так што я сумясціла ўсё разам.

**Апытанне праводзілі Кірыла ПАЗЬНЯК і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Чысты край

*Нашыя продкі 19 сакавіка прысвячалі чысціні вады. Яны ўспрымалі жыццё проста, такім, як ёсць. Ніхто не хацеў зрабіць свет лепшым, чым стварыў яго Бог. Хадзілі кругом студняў і крыніцаў ды маліліся. Пачысціць, прыбраць і ўладкаваць таксама, што праўда, не забывалі. Такая сутнасць аўтэнтычнай беларускай культуры.*


Фота Ул. ШЛАПАКА

Змяненні, між тым, адбываліся. Людзей прыбывала. Усім трэба было есці, апранацца, хавацца недзе ад холаду і дажджу. Попыт спараджаў прапанову. За тысячу гадоў Еўропа і мы разам з ёй сталі багатыя, сытыя, а вада – атрутай.

Вось і спраўдзілася, што казалі пракрокі тысячы гадоў таму: «Сапсуюць яны крыніцы водаў і будзе тое ім пакараннем». Знікалі пушчы, паўставалі гарады, раслі кучы смецця, і піць ваду проста з ракі ўжо нельга.

Але ж нешта піць трэба, і ваду з рэчак п'е ў нашым краі чвэрць насельніцтва. Урад Беларусі гэта нават натхніла стварыць Нацыянальны план дзеянняў па гігіене навакольнага асяроддзя.

Бо яно атрымліваецца – як у песні: «Цячэ вада ў ярок». Больш за 3,8 млн. га сельскагаспадарчых земляў церпяць ад эрозіі. Мые іх вадзіца, а тое, што ў вадзе распусцілася, цячэ ў рэчкі, балоты, сажалкі.

Глеба ж забруджаная пестыцыдамі, якія скарысталі абы-як. Больш за тое, у розных часцяком непрыдатных для таго месцах калгаснікі пакінулі каля тысячы тонаў пестыцыдаў з пратэрмінаванай датай выкарыстання. Датчане, да якіх сцякае наша вада цераз Нёман і Дзвіну, гатовыя плаціць мільёны даляраў таму, хто тую атруту неяк прыбярэ.

З рэчкі дрэнная вада. А са студні альбо крыніцы? Таксама не надта добрая. Большасць жа карыстаецца вадой верхавой, з неглыбокіх студняў. Са свідравінаў адпампоўваецца цяпер не болей за 3,5 мільёна кубаметраў. Геолагам вядомыя 252 радовішчы пітной вады, з якіх можна ўзяць да 50. Ці варта толькі?

Мяркуйце самі. Дастаткова ўявіць сабе адпрацаванае масла і салярку, што разлілася з тэхнікі, выкінутыя фільтры, сцёкі са сметнікаў, свінагадоўчых комплексаў, буйных заводаў, палёў фільтрацыі. Да таго ж трэба ўлічыць, што сядзім на жвіры і пясочку; тое, што трапіла на зямлю, ідзе глыбока. У выніку вада ў трох чвэрцях вясковых студняў мае перавышэнне допушчальнай канцэнтрацыі нітратаў. А ў палове тых студняў канцэнтрацыя складае велічыню ўтрая большую за дазволеную. Сягае паўтараста міліграмаў на літр «чыстай» вады.

У студнях з рэкорднай канцэнтрацыяй бруду вада па сваіх хімічных уласцівасцях больш нагадвае вадкі гной, а па ўтрыманні калію яго перасягае. І гэта п'юць дзеці, хворыя, цяжарныя жанчыны і прадстаўнікі нацыянальна-вызвольнага руху. У такі спосаб праз паўсотні гадоў не застанецца каго вызваляць.

Цяпер пад калгаснымі фермамі нітраты трапляюцца і на глыбіні ў 30 метраў, а пад вялікімі – да 50. На свідравінах у Навінках, з каторых Мінск поіць ужо хутка 80 гадоў, нітраты сустракаюцца на глыбіні да 200 метраў. Вада з Навінак мае гэтай атруты на траціну болей, чым лекары раяць ужываць: і горад дае, і птушкафабрыка.

Няма чыстае вады. Хіба што ў якой далёкай крыніцы. Тым часам ачышчае ваду дадаткова не болей за 2% нашага насельніцтва. Лічба цалкам адпавядае таўшчыні таго сацыяльнага слою, што завецца ў іншых месцах сярэднім класам.

Яны і там спрабуюць рознымі фільтрамі давесці якасць вады да ДМК. Хаця ж у простых рэчах сярэднекласнаму спажыўцу цяжка па-простаму разважаць. Тыя санітарныя нормы разлічваліся на допушчэнні стабільнага назапашвання рознага бруду ў арганізме абсалютна здаровага чалавека цягам 50 гадоў. Вы з такой сітуацыяй часта сутыкаліся? Вада з артэзіянскіх свідравінаў больш мінералізаваная, чым вада са студняў. Наколькі яна пасуе бытавым фільтрам, ніхто асабліва не тлумачыць. А трубы, па каторых цячэ гарадская вада дзесяткамі гадоў? Па якой тэхналогіі яны рабіліся? Што вымывае з іх вада з хлёркай і прыносіць у ваш фільтр?

Астатнія п'юць ваду з хлёркай. У Амерыцы, дзе разумеюць, чаго каштуе здароўе нацыі, высветлілі, што такая вада, калі яе п'е цяжарная, не спрыяе нармалёвай цяжарнасці і псуе здароўе дзіцяці яшчэ ў чэраве. Мы ж за хлёрку аддаём амаль чатыры мільёны даляраў штогод, бо яна ў нас імпартная. А перанасычаную жалезам ваду п'е палова насельніцтва краю, і няма за што ад гэтай праблемы пазбавіцца.

Пры ўсім тым начальства лічыць, што толькі дзесятая частка спажытай грамадзянамі вады не адпавядала стандартам. І шкоды для здароўя не выяўлена. Мабыць, ніхто каля крану не зваліўся, як атручаны падзішах.

Тым не менш нашыя стратэгі, ва ўсякім разе на словах, спадзяюцца вывесці Беларусь у першую дзесятку еўрапейскіх дзяржаваў з чыстай вадою. Тыя мары і абяцанкі грунтуюцца, мабыць, на неразуменні наступстваў Чарнобылю.

Сапраўды, выкіды з «запушчаных» заводаў змяншаюцца досыць імкліва, бо, калі няма вытворчасці, і смецця меней. Сапраўды, у палескіх радыяцыйных пушчах размнажаюцца зубры і нават завяліся мядзведзі. Беларусь парастае лесам, і плошча таго лесу штогод павялічваецца на 1%.

Ды не ўсё пра тое нам вядома ды такое простае. Звяры і птушкі мігруюць па ўсёй краіне, а назапашаныя імі дозы радыяцыі вагаюцца ад поўнай нормы да перавышэння ў тысячу разоў. Не горай, а нават лепей за жывое мігруе вада. І мы яе п'ём. Японцы вадой заняліся і на дзесяць гадоў працягласць жыцця павялічылі. Той японскі рабацяга на дваццаць гадоў долей за нашага жыве.

А мы спадзяёмся, мабыць, на чарадзейныя ўласцівасці беларускага закону пра санітарна-эпідэмічную дабрастотнасць насельніцтва ад 23 лістапада 1993 году.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

ЭКСПРЭС

## Эканамічныя нататкі

### Абласныя турботы

У шматлікіх раёнах Віцебскай вобласці працаўнікі адукацыі не атрымалі зарплаты нават за першы месяц гэтага году. Прычына – адсутнасць грошай у мясцовых бюджэтаў, з якіх фінансуецца школа. Такая ж цяжкая сітуацыя і ў галіне аховы здароўя – толькі 9 суб'ектаў гаспадарання з усіх 26 не пакінулі сваіх супрацоўнікаў без сродкаў існавання. Расце запазычанасць гэтага сектару і за медыкаменты, камунальныя паслугі і інш.; яе сума перавысіла паказчык на пачатак году ў паўтара раза і склала 8 млрд. рублёў. Праблема энергазабеспячэння таксама востра стаіць перад віцебскімі ўладамі – запазычанасць за энергарэсурсы складае зараз 127,5 млрд. рублёў. У цэлым па вобласці энергетыкам аплацілі толькі 6,8% выкарыстанай энергіі.

Візіт дэлегацыі Гомельскай вобласці ў Маскву скончыўся падпісаннем дамоваў аб пастаўках прадукцыі Гомельскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, «Спартака» і лікёра-гарэлачнага заводу. Цяпер разглядаюцца таксама ўмовы ўдзелу шэрагу гомельскіх будаўнічых арганізацый у праграме жыллёвага будаўніцтва маскоўскай акругі. Акрамя таго, прадпрыемствы вобласці рыхтуюцца да выставы-кірмашу сваёй прадукцыі ў Маскве.



Фота Ул. ШЛАПАКА

### Чарнобыльскі турызм

Ужо даўно турыстам дазволена наведваць амаль усе аб'екты чарнобыльскай зоны, праўда, не рэкамендуецца браць з сабой дзяцей да 18 гадоў. Заяўкі на наведванне Чарнобылю паступаюць у асноўным ад турыстаў, якія маюць прафесійную цікавасць да зоны: гэта біёлагі, фізікі, журналісты і г.д. Зона цалкам гатовая да прыёму гасцей, там нават ёсць камфартабельныя гатэлі класу люкс. Большасць такіх аб'ектаў будавалася на чыстых лапіках зямлі (мянялі пласт глебы), матэрыялы выкарыстоўваліся таксама прывазныя, а прадукты харчавання тройчы праходзяць спецыяльны кантроль. Сярэдні кошт пражывання ў гасцініцы з трохразовым харчаваннем складае каля 20 даляраў. Мясцовыя аўтаўладальнікі здаюць машыны за 15 у.а. у гадзіну. Турфірмы прапануюць таксама паслугі гіда-перакладчыка, персанальныя ахоўныя касцюмы і дазіметры. Турыстам падабаецца гуляць па кінутых паселішчах, назіраць, як скача стрэлачка дазіметра. Кароткатэрміновы побыт у зоне, як сцвярджаюць яе супрацоўнікі, не ўплывае на стан здароўя (натуральны фон чыстай мясцовасці складае каля 10 мкР/гад., бяспечным лічацца да 30 мкР/гад., на большасці аб'ектаў ён складае каля 50 –70, але ёсць, вядома, і значна бруднейшыя мясціны – да 1 000 мкР/гад.).

### Транспарт рэспублікі падымаецца на ногі

Сёлета беларускія аўтапаркі чакае рэфармаванне, а міжнародных перавозчыкаў – узмацненне кантролю. Пра гэта абвясціў міністр транспарту Беларусі Міхаіл Баравы. Па яго словах, за мінулы год прадпрыемствы міністэрства перавезлі 1 250 млрд. пасажыраў, каля 43,5 млн. тон грузаў, выручка ад транспартных перавозак склала 124 млн. даляраў. У бягучым годзе будзе абнаўляцца рухомы састаў і пройдзе рэформа сістэмы аўтапаркаў. Адзіны варыянт, каб выканаць планы абнаўлення (каля 1 000 адзінак грузавікоў і 600-700 аўтобусаў), міністр бачыць у выкарыстанні лізінгу. Колькасць паркаў павінна скарачіцца, замест некаторых плануецца арганізаваць станцыі абслугоўвання і сэрвісныя цэнтры.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Хворая эканоміка крыміналізуецца

## *Эканамічныя злачынцы часта падобныя на прыстойных людзей*

*Эканамічныя злачынствы падрываюць маральныя падваліны грамадства. Пра гэта гутарка карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ з начальнікам аддзелу па раскрыцці эканамічных злачынстваў у базавых галінах эканомікі і дзяржбюджэтнай сферы ГУУС Мінгарвыканкаму Аляксандрам Карчынскім.*

***– Што ўваходзіць у сферу вашых службовых інтарэсаў?***

– Прадухіленне і раскрыццё злачынстваў на мытні, у падатковай сферы, у прамысловасці, уключаючы паліўна-энергетычны комплекс, будаўніцтве, медыцыне і адукацыі.

***– Скажу шчыра, Аляксандр Міхайлавіч, я думала, што АБЭЗ у першую чаргу абараняе эканамічныя інтарэсы дзяржавы, і толькі потым – грамадзян. Хоць я разумею, што дзяржава – гэта грамадзяне.***

– Так, і я скажу банальную праўду, што дабрабыт дзяржавы складаецца з дабрабыту яе грамадзян. А вось некаторыя службовыя асобы турбуюцца толькі аб сваім асабістым дабрабыце. Начальнік аднаго з цэхаў «Атланту» за кошт заніжэння нормы гадзін на выкананне работ па вытворчасці прэс-формаў значна знізіў сабекошт вырабаў. У выніку людзі працавалі як звычайна, а грошай атрымалі меней. Згаданыя прэс-формы былі рэалізаваны камерцыйнай структуры па меншым кошце, чым звычайна.

***– І каму гэта было выгадна?***

– На жаль, можна толькі здагадвацца, каму гэта было выгадна. Але здагадкі нішто, калі няма доказаў. У дадзеным выпадку іх няма. Увогуле, такія злачынствы, як хабар ці так званы «откат», даволі цяжка прадухіляюцца і раскрываюцца. Ніхто ж гэтым не займаецца пры сведках.

***– А якія злачынствы часцей за ўсё здараюцца на прадпрыемствах?***

– Часцей за ўсё звычайныя крадзяжы. Апошнім часам моцна актывізаваліся зладзеі, якія «спецыялізуюцца» на чорных і каляровых металах. Такіх справаў шмат. Кожны тыдзень супрацоўнікі АБЭЗ затрымліваюць раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасці на адным з найбуйнейшых прадпрыемстваў сталіцы – МАЗе. Да крымінальнай адказнасці прыцягваюцца грамадзяне, якія скралі прадукцыі больш чым на сто тысяч рублёў. За крадзеж на меншую суму ў якасці пакарання прадугледжаны штраф. На тым жа РУП МАЗ супрацоўнікі ваенізаванай аховы, змовіўшыся з пакуль не вызначанымі асобамі, скралі і вывезлі з тэрыторыі прадпрыемства 5 пярэдніх мастоў на суму звыш 11 мільёнаў рублёў. І яшчэ прыклад. Кіраўнікі аднаго дарожна-будаўнічага ўпраўлення неаднаразова амаль што ва ультыматыўнай форме патрабавалі, каб працоўныя аддавалі ім частку грошай з прэмій за выкананне плану і нават з выплат за рацыяналізатарскія прапановы. Не магу сказаць, што гэта вельмі распаўсюджанае злачынства, але ў нашай практыцы не адзін такі выпадак. Зараз «вынаходлівы» дырэктар і галоўны інжынер знаходзяцца пад хатнім арыштам.

***– Аляксандр Міхайлавіч, як гэта ні дзіўна гучыць, але і сфера адукацыі таксама крыміналізуецца.***

– Дзіўна гучыць... Вы маеце на ўвазе, што ў сферы адукацыі павінны «сеять разумное, доброе, вечное», а на справе і тут не абыходзіцца без пачвар. Самы яскравы прыклад. Супрацоўнікамі АБЭЗ Цэнтральнага РУУС была затрымана галоўны спецыяліст па правах дзяцінства гэтага раёну, якая прысвойвала гуманітарную дапамогу для дзяцей, што выхоўваюцца ў апякунскіх сем'ях. Адзення, прадуктаў харчавання гэтая «спецыялістка» адняла ў дзяцей на суму звыш пяці мільёнаў рублёў.

***– Як гэта адбывалася?***

– Па дакументах усё праходзіла як мае быць. Але калі паразмаўлялі з людзьмі, а потым правялі экспертызу подпісаў атрымальнікаў, то ўсё і высветлілася. Пагадзіцеся, што гэта вельмі прыкрае злачынства. У нас не так шмат сем'яў, якія бяруць на выхаванне, усынаўляюць дзяцей, а з імі так не палюдску абышоўся чалавек, абавязак якога – абараняць іх інтарэсы.

***– Ці былі ў вашай практыцы злачынствы, якія адпавядаюць прыказцы «жадность фраера сгубила»?***

– Так, і шмат. Даволі яркі прыклад. Салідная будаўнічая фірма стала крэдытавалася ў адным камерцыйным банку. У нейкі момант з'явіліся цяжкасці з вяртаннем пазыкі, і будаўнікі аддалі банку заклад – памяшканне гандлёвага цэнтру. Банку, зразумела, яно не патрэбна, але і сам ён займацца рэалізацыяй нерухомасці не можа. Таму банк заключыў дамову з агенцтвам нерухомасці наконт пошуку пакупніка. Ніякіх парушэнняў тут няма. Дырэктар агенцтва нерухомасці знайшоў пакупніка на памяшканне, якое было ацэнена ў суму, эквівалентную сямі тысячам даляраў, і гэты кошт абгрунтаваны. Ён і фігураваў ва ўсіх афіцыйных дакументах. Дадаткова дырэктар агенцтва запатрабаваў яшчэ 20 тысяч даляраў. Можа, каб лічба «ўзнагароды» была сціплейшая, пакупнік і не паскардзіўся б на вымаганне хабару.

***– Аляксандр Міхайлавіч, як вы думаеце, ці хутка наступіць «эра міласэрнасці» ў эканоміцы?***

– Нават у самых багатых краінах з устойлівай эканомікай здзяйсняюцца злачынствы ў гэтай сферы. Там іншыя лічбы і іншыя віды злачынстваў. На жаль, «эры міласэрнасці» ў эканоміцы вы не знойдзеце ў ніводнай краіне свету.

***– Вы добра ведаеце ўсе, ці амаль усе, негатыўныя з'явы ў нашай эканоміцы. Шчыра скажам, яна ў не найлепшым стане. Што павінна, на вашу думку, адбыцца, каб стан беларускай эканомікі палепшыўся?***

– На маю думку, прыватызацыя і інвестыцыі – гэта эканамічныя фактары. І яшчэ павінны адбыцца нейкія змены ў псіхалогіі грамадзян.

**Яніна КРАКОЎСКАЯ**

# Лікбез для спажыўца

*І ў рэстарацыях «Макдональдс» бываюць кепскія дні. Відаць, у адзін з такіх дзён я тут нядаўна перакусіла. Розныя «макі» былі нішто сабе, а вось страва «Бульба па-хатняму» не ўдалася. Ейны выгляд ад яды адварочваў. Разламіўшы адзін з кавалачкаў, я пабачыла ў сярэдзіне бульбы чарнату. Мо выпадковасць? Але і з яшчэ адным кавалачкам адбылося тое самае – уся порцыя аказалася такая.*

Што, першы раз у нашым беларускім жыцці падобнае здараецца? Звычайна я проста сыходзіла незадаволеная, пабяцаўшы сабе, што больш нагі маёй не будзе ў гэтым бары (краме, майстэрні і г.д.) Але гэтым разам я не паленавалася выказаць сваё абурэнне – і мне без усялякіх пярэчанняў аддалі грошы за сапсаваную порцыю, бо знайсці іншую прыдатную да ежы не змаглі.

## З гісторыі змагання спажыўцоў

Такім чынам, вопыт абароны маіх спажывецкіх правоў прайшоў удала. І вельмі сімвалічна, што пачаўся ён з амерыканскай рэстарацыі. Бо якраз амерыканцы пачалі бараніць спажывецкія правы. Першы абураны спажывец, які рызыкнуў патрабаваць ад прадаўца належнай якасці тавару і абслугоўвання, з'явіўся ў Амерыцы яшчэ ў 1775 годзе. Да пачатку 20-га стагоддзя такая барацьба перарасла ў масавы рух, а афіцыйна прызналі там правы спажыўцоў роўна 40 год таму – з прэзідэнта Джона Кенэдзі. 15 сакавіка 1962 году ў сваім звароце да парламенту ён абвесціў чатыры асноўныя правы спажыўца: на бяспеку, інфармаванасць, выбар і права быць пачутым. З таго часу павялося ў гэты дзень адзначаць Сусветны дзень спажыўца.

Наша беларуская гісторыя абароны спажыўцоў нашмат карацейшая. Усяго толькі 8 гадоў таму за намі заканадаўча прызналі нейкія правы як за спажыўцамі. А першая рэспубліканская арганізацыя абароны спажыўцоў пачала працаваць яшчэ за 5 гадоў да гэтага, у 1989 годзе, бо, як той казаў, накіпела.

Мінская гарадская арганізацыя абароны спажыўцоў дзейнічае з красавіка 1995 году. З той пары, як мяркуе старшыня арганізацыі Васіль Парынаў, сталічны народ стаў прыкметна больш абазнаны ў сваіх правах: «Некалі я казаў, што ведаюць закон «Аб абароне правоў спажыўцоў» 5%, чыталі 10%, а чулі аб ім 15% насельніцтва, але зараз лічбы змяніліся. У нас ужо рэдка хто не ведае пра закон нічога, а як след карыстаюцца ім прыкладна 30-35% жыхароў Мінску». Прадаўцоў, натуральна, змены закранулі меней. Тыя, хто скончыў гандлёвыя вучэльні ці тэхнікумы, яшчэ ў правах спажыўца больш-менш падкаваныя. А пра тых, у каго за плячыма 4 месяцы вучобы на курсах, ці пра «самавукаў» з рынкаў увогуле няма чаго і казаць.

## Чорны рэйтынг

655 чалавек за мінулы год звярнуліся ў Мінскую арганізацыю аховы спажыўцоў (*тэл. 264-02-04*), шукаючы дапамогі. У рэйтынгу скаргаў (70%) першае месца з вялікім адрывам займаюць нізкаякасныя харчовыя тавары. І часцей за ўсё абурэнне грамадзян выклікаюць вараныя кілбасныя вырабы.

Паводле словаў Васіля Парынава, справа ў тым, што мясакамбінаты падоўжылі тэрмін рэалізацыі гандлем кілбасы. Раней вараная кілбаса вышэйшага гатунку не магла залежвацца на прылаўках даўжэй за 72 гадзіны з моманту яе вырабу. Зараз яна можа чакаць свайго пакупніка да 18 сутак. Абгрунтавана такое падаўжэнне тэрмінаў паляпшэннем герметычнасці ўпакоўкі і дабаўленнем у кілбасы розных хімічных дадаткаў-стабілізатараў.

Мясакамбінаты і крамы ад гэтага ў выйгрышы. Але не спажывец. Можаце сабе ўявіць, які выгляд будзе мець тая кілбаса на 18-ыя суткі. Крамы раней і цягам 3 сутак не заўсёды маглі забяспечыць мясным вырабам належныя ўмовы захоўвання – абавязкова псавалася нейкая халадзільная камера. А цяпер яны мусяць гэта рабіць амаль паўмесяца. Таму, каб не натрапіць на кілбасу, што дажывае апошнія свае дні, трэба ўзяць у звычку заўсёды перад пакупкаю пытацца ў прадаўца, калі яе прывезлі.

Шмат нараканняў выклікаюць у сталічных пакупнікоў якасць мясных паўфабрыкатаў, асабліва Ваўкавыскага мясакамбінату, і дзіравыя пакеты малака ад малаказаводу № 3.

Другое месца ў рэйтынгу скаргаў спажыўцы аддалі няякаснаму аказанню паслугаў ад сувязі да рамонту. Нядаўна скончылася адна судовая справа з хімчысткай «Чыстае адзенне», якая цягнулася каля 8 месяцаў. Пасля хімічнай чысткі дублёнка страціла свой родны колер і атрымала тлустыя плямы. Пра магчымасць такіх наступстваў гаспадыню забыліся папярэдзіць загадзя, як звычайна робяць у хімчыстках, і толькі гэта дапамагло ёй атрымаць кампенсацыю за сапсаваную рэч.

Не сціхае з гадамі і адвечная вайна жыхароў дамоў з ЖЭСамі і ЖРЭА. Нават увядзенне платы за паслугі ЖЭСаў нічога не змяніла – іхняя якасць ад гэтага не палепшылася, і скаргі ўсё пішуцца і пішуцца.

Цягам гэтага году па дапамогу звярнуліся ўжо 9 мінчукоў. Адна жанчына, напрыклад, вырашыла прадаць сваю двухпакаёвую кватэру і замест яе купіць трохпакаёўку. Звярнулася да агенцтва нерухомасці «Айнур», якое ў выніку і свае абавязацельствы не выканала, за якія спагнала грошы, і дакументы на кватэру гаспадыні цяпер не аддае.

## Рынкі ці крамы – дзе купляць?

Калі вас аблічылі ці прадалі няякасную рэч у краме, то з гэтым, у прынцыпе, разабрацца няцяжка. У прадаўца ваш зварот можа выклікаць абурэнне, аднак не вельмі на гэта зважайце. Размаўляць трэба з начальствам, а яно, як правіла, схільнае пазбягаць скандальных момантаў.

Вось з рынкамі, і харчовымі, і рэчавнымі, змагацца куды цяжэй. Тут для гандляроў правілы не пісаныя: чэкаў яны не выдаюць, за якасць не адказваюць і вас, калі што здарыцца, «бачаць упершыню». Параіць, што ў такім выпадку рабіць, я папрасіла Васіля Парынава: «Спажывец мусіць падысці да адміністрацыі рынку. Там ёсць усе звесткі на кожнага прадпрымальніка, і па патрабаванні спажыўца, калі ён набыў няякасны тавар, яны мусяць гэтыя звесткі яму прадаставіць. Тады ён можа сам вырашаць пытанне аб няякасным тавары з гэтым гаспадаром-прадпрымальнікам, а калі не вырашыць – можа званіць нам. А мы ўжо ведаем, як з ім размаўляць».

Адсутнасць дакументу, які мог бы пацвердзіць пакупку ў таго ці іншага прадаўца на рынку, – яшчэ не трагедыя. Калі вы не хадзілі туды адзін – значыць, у вас ужо ёсць сведка, які можа пацвердзіць факт пакупкі. Да таго ж лёгка можна праверыць, ці быў у той час у прадаўца на рэалізацыі тавар такой мадэлі альбо фасону.

Аднак лепш перастрахоўвацца загадзя і заўсёды браць у прадаўца чэк. Добраахвотна яны яго не даюць, бо дэкрэтам №12 ад 2001 году іх ад неабходнасці мець касавы апарат і выкарыстоўваць адрыўныя талоны вызвалілі. Але ад выдачы дакументаў, якія пацвярджаюць пакупку тавару, іх ніхто не вызваляў. Таму патрабуйце яго смела. Прычым для вашай бяспекі будзе дастаткова любой паперкі, дзе будуць пазначаныя прозвішча прадпрымальніка, нумар рэгістрацыйнага пасведчання, які тавар набыты, дата, кошт пакупкі і подпіс. А надпісы на каробках, дзе фігуруе толькі дата, кошт і неразборлівы подпіс, паўнавартаснага дакумента не замяняюць.

На рэчавых рынках самыя вялікія нараканні спажыўцоў выклікае якасць абутку, дзіцячых куртак і дублёнак. На харчовых рынках з савецкіх часоў нічога не змянілася: і хамяць гэтаксама, і нават усе вынаходкі для абліку пакупнікоў, кшталту падпільвання гіры ці падкладання гаечнага ключа пад вагу, практыкуюцца тыя ж. Гнілыя мандарыны, бананы ці хурму, якія ўжо самы час спісаць як санітарны брак, прадаюць, зніжаючы кошты.

Дарэчы, любое аблічванне, прычым усё роўна на якую суму, расцэньваецца законам як падман пакупніка. А калі прадавец здзейсніў яго другі раз – на яго ўжо свабодна можа заводзіць крымінальную справу.

## Ад лагоды да суду

Шукаць праўды вы можаце самастойна, праз арганізацыю абароны спажыўцоў ці нават звярнуцца ў выканкам, дзе таксама ёсць упаўнаважаныя па абароне спажыўцоў.

Розніца паміж вамі і арганізацыяй толькі ў тым, што там ужо маюць сякі-такі вопыт пошукаў праўды і дамагання справядлівасці, ведаюць, як размаўляць з парушальнікам і да чаго апеляваць.

Калі мірныя размовы з упартымі начальнікамі і дырэктарамі не даюць вынікаў, спажывец можа прыняць рашэнне звярнуцца да суду. Іскавую заяву ён можа падаць на выбар ад свайго імя ці ад імя арганізацыі абароны спажыўцоў. У абодвух выпадках ён вызваляецца ад уплаты дзяржвыдаткаў.

Аднак да суду справы даходзяць рэдка. Перш-наперш гэта нявыгадна самім прадаўцам. У выпадку пройгрышу справы на іхнія плечы кладзецца немалая аплата ўсіх судовых выдаткаў, экспертызы, штрафу і маральнай кампенсацыі.

Сёлета звярнуўся ў арганізацыю мужчына, які набыў у фірме «Швейцарскі стыль» наручны гадзіннік прыблізна за 100 даляраў. Ужо праз паўгода ў гадзінніку парушылася герметычнасць, і на корпусе з'явілася карозія. А па пашпарце гарантыя прадастаўляецца на 12 месяцаў толькі на механізм гадзінніка. З ім жа, па заключэнні гарантыйнай майстэрні, усё добра, нягледзячы на парушаную герметычнасць корпусу. У арганізацыі абароны спажыўцоў дырэктару фірмы прапанавалі правесці незалежную экспертызу механізму і корпусу, бо па дакументах ён мусіць быць зроблены з нейкай добрай сталі з дабаўленнем золата, срэбра і плаціны, аднак вельмі дзіўна, што пры гэтым ён пайшоў карозіяй. Натуральна, дырэктар ад экспертызы адмовіўся і пагадзіўся вырашыць усё мірам.

З тых жа прычын мінулым годам ад імя Мінскай арганізацыі абароны спажыўцоў у суд было пададзена толькі тры іскавыя заявы, дзве з якіх скончыліся замірэнчым пагадненнем.

Грошай за сваю працу грамадскае аб'яднанне не атрымлівае. Але калі яно выйграе судовую справу, 10% ад сумы штрафу, які выплачвае парушальнік у мясцовы бюджэт, ідзе на рахунак арганізацыі. Была спроба ў новым законе «Аб ахове правоў спажыўцоў» гэтую суму павялічыць, аднак заканатворцы з гэтым не пагадзіліся.

## Новы закон аб абароне спажыўцоў

З ліпеня 2002 году пачне дзейнічаць новы закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», а стары зараз дажывае свае апошнія месяцы. Распрацоўваць новы закон пачалі гадоў пяць таму, і пакуль яго дапрацоўвалі і ўзгаднялі, ён пачаў пакрысе старэць. Але, на думку Васіля Парынава, і такі ён усё роўна лепшы за стары. Гарантыйны тэрмін па ім, напрыклад, падаўжаецца з 12 месяцаў да 2 гадоў, і дакладна вызначаецца тэрмін у 7 дзён, у які спажыўцу мусяць быць вернутыя грошы за няякасны тавар. Да таго ж ён стаў больш падрабязны і дасціпны, бо з 19 артыкулаў павялічыўся да 46, і разабрацца па ім са сваімі правамі любому спажыўцу будзе не цяжка.

**Алена ЛАБАНАВА**



Фота Ул. ШЛАПАКА

МІЛІЦЫЯ

# Абаронцы дзяржаўных інтарэсаў

З нагоды 65-годдзя падраздзяленняў міліцыі, якія займаюцца барацьбой з эканамічнымі злачынствамі, начальнік упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкаму Аляксандр Ціхамідраў правёў брыфінг для журналістаў.

Ён паведаміў, што прыярытэт у працы ўпраўлення БЭЗ – цяжкія эканамічныя злачынствы, у выніку якіх дзяржаўная казна можа не далічыцца мільярдаў рублёў, а таксама злачынствы, якія наносяць вялікую грамадскую шкоду, у прыватнасці хабарніцтва ў сферы адукацыі і аховы здароўя.

У мінулым годзе было зарэгістравана 4 713 злачынстваў у галіне эканомікі, у 1 463 з іх памер шкоды кваліфікаваўся як буйны і асабліва буйны. Летась было выяўлена 269 злачынстваў, звязаных з хабарніцтвам, а з пачатку гэтага году ўжо 54. Хабар бяруць усюды: ад радзільнага дому і да могілак. Супрацоўнікі АБЭЗ аддаюць самую пільную ўвагу схаваным формам хабарніцтва, і перадусім у галіне адукацыі. Гаворка ідзе аб рэпетытарстве з гарантыяй паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову. Услед за добрай навіной, што ў нас усё ж такі пачнецца прыватызацыя, прагназуюць, што гэты працэс справакуе службовых асоб на задавальненне сваіх карыслівых інтарэсаў.

Знаходжанне ў абароце фальшывых грашовых купюр таксама наносіць вялікую шкоду эканоміцы. За мінулы год былі выяўлены 1 192 падробныя купюры амерыканскіх даляраў на суму 114 тысяч. Нямецкіх марак – толькі 10 купюр на суму 1 800 марак. Расійскія рублі «засвяціліся» толькі два разы. А вось беларускія фальшыўкі сустракаліся 44 разы, у грашовым эквіваленце яны склалі 153 тысячы. Гэта няшмат, але тэндэнцыя вельмі трывожная. У гэты «бізнес» уцягваюцца падлеткі. Два гады таму была затрымана група школьнікаў, якая вырабляла фальшывыя грошы на суперкамп'ютэры. 11 сакавіка на адной з сталічных АЗС дзякуючы ўважлівасці касіркі, якая праз «трывожную кнопку» выклікала нарад міліцыі аб'яднання «Ахова», былі затрыманы двое, што разлічваліся фальшыўкай за паліва. Затрымалі навучэнца ПТВ і студэнта, будучага праграміста, які і займаўся вырабам фальшывых купюр. Па прызнанні затрыманых, было выраблена 100 купюр па пяць тысяч рублёў. Але калі такія «грошы» знаходзяцца ўжо ў інкасатарскай сумцы, высветліць, ад каго яны атрыманы, немагчыма. А збываюць такія купюры звычайна на рынках, асабліва сялянам. Затрыманая група фальшываманетчыкаў «малявала» грошы на звычайнай паперы.

Амерыканскія грошы звычайна падрабляюць, дамалёўваючы нуль на пяцідаляравую і аднадаляравую купюры, зноў-такі пры дапамозе камп'ютэра. Не ўсе ж ведаюць у твар амерыканскіх прэзідэнтаў і не ўсе ўмеюць чытаць па-англійску, на жаль.

Асноўны паказчык эфектыўнасці працы АБЭЗ – вяртанне ў даход дзяржавы скрадзеных грошай ці матэрыяльных каштоўнасцей. У мінулым годзе ў выніку ўзбуджаных крымінальных справаў было вернута 3,7 мільярда рублёў. Дзякуючы прафілактычнай працы, не звязанай з узбуджэннем крымінальных справаў, дзяржаўная казна атрымала 7,7 мільярда рублёў.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Украінская праваслаўная царква здабыла незалежнасць

Урад Украіны пацвердзіў законны статус Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага патрыярхату (УПЦ КП). Канфлікт вакол яе рэгістрацыі можна лічыць вычарпаным, заявіў дзяржсакратар міністэрства юстыцыі Украіны Аляксандр Лаўрыновіч. Ён паведаміў, што калегія Дзяржкамітэту па справах рэлігій адхіліла пратэст Генеральнай пракуратуры, якая патрабавала перагледзець рэгістрацыйныя дакументы УПЦ КП.

Варта нагадаць, што гэты пратэст з'явіўся пасля скаргі кампартыі Украіны, якая сцвярджала, што рэгістрацыя УПЦ КП незаконная. На думку А.Лаўрыновіча, канфлікт быў далёкі ад прававога і меў палітычны характар. Украінская праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхату была ўтворана на пачатку 1990-х гадоў пасля аддзялення часткі праваслаўных прыходаў ад Рускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату.



Ачольнік Украінскай Праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату Філарэт



Свята-Міхайлаўскі мужчынскі манастыр у Кіеве

На мінулым тыдні, у часе вырашэння канфлікту, ачольнік Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату Філарэт заявіў, што УПЦ КП дзейнічае на законных падставах. Ён адзначыў: «Мы цалкам законна правялі Усеўкраінскі праваслаўны сабор 25-26 чэрвеня 1992 году, на якім было прынятае гістарычнае рашэнне аб аб'яднанні дзвюх Цэркваў (частак Украінскай Праваслаўнай Царквы і Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы), не толькі з кананічнага пункту гледжання, але і з пункту гледжання людскога заканадаўства».

Філарэт таксама выказаў думку, што трэба высветліць, якім чынам пратэст Генпракуратуры ў адрас Дзяржкамрэлігіі – «дакумент унутранага карыстання (перапіска паміж двума органамі ўлады) патрапіў на сайт Маскоўскай патрыярхіі» і быў «падхоплены расійскімі СМІ». Ачольнік УПЦ КП нагадаў, што па Канстытуцыі Царква аддзеленая ад дзяржавы, і калі Генпракуратура не зменіць сваёй пазіцыі, «дык гэта будзе сведчыць, што яна зацікаўленая ў распальванні міжрэлігійнай варожасці, да таго ж напярэдадні парламенцкіх выбараў».

Генпракуратура накіравала свой пратэст у Дзяржкамітэт па справах рэлігій на падставе дэпутацкага запыту, у якім 65 дэпутатаў-камуністаў прапанавалі ўзбудзіць крымінальную справу па факце прысваення кіраўнікамі УПЦ КП фінансавых сродкаў і маёмасці Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату. Цяпер прыхільнікі Маскоўскай патрыярхіі пацярпелі паразу, Украінская праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхату зарэгістравана і дзейнічае цалкам законна.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

# Выстава ў Пражскім Градзе

На мінулым тыдні ў сталіцы Чэхіі Празе ў памяшканнях Старога каралеўскага палаца адкрылася унікальная па задуме і змесце выстава – «Цэнтр Еўропы ў 1000 годзе». 179 арганізацыяў з 12 еўрапейскіх краін прадаставілі для экспазіцыі гістарычныя дакументы і каштоўныя рэчы са сваіх скарбніц. Усяго будзе выстаўлена на агляд 2 800 розных экспанатаў. Выставу рыхтавалі болей за 190 спецыялістаў. Найбольш каштоўныя экспанаты з дзяржаўных і прыватных калекцыяў далі на час выставы Германія, Чэхія, Славакія, Польшча, Венгрыя.

Адзін з аўтараў унікальнай экспазіцыі, чэшскі гісторык Душан Тржэшцік перакананы, што выстава «Цэнтр Еўропы ў 1000 годзе» стварае зусім новае бачанне гісторыі, якое не падзяляе розныя народы Еўропы, а аб'ядноўвае іх. Эксперты не баяцца ацэньваць каштоўнасць гістарычных скарбаў, якія будуць выстаўлены для наведнікаў у залях каралеўскага палаца. Аднак экспанаты застрахаваныя на суму ў 84 мільёны даляраў, хоць яны ніяк не эквівалентны грашам па сваёй унікальнасці. Патронам гэтай незвычайнай выставы выступіла Рада Еўропы.

**Ян ВЕЛІЧКА**

# У Рыме адкрыўся музей Беніта Мусаліні



У Рыме адкрыўся музей былога фашысцкага дучэ – дыктатара Італіі Беніта Мусаліні, паведамілі аўстрыйскія электронныя СМІ са спасылкаю на крыніцы ў італьянскай сталіцы.

Музей, як перадае карэспандэнт *РИА «Новости»*, размясціўся ў адным з будынкаў, дзе былі асабістыя апартаменты галавы італьянскіх фашыстаў – на віле «Тарлонія». Мусаліні карыстаўся віл аю як сваім жылым домам на працягу 18 гадоў.

Рымскія ўлады паведамілі, што ўнутранае ўбранне «Тарлоніі» значна пацярпела ад брытанскіх і амерыканскіх вайскоўцаў падчас Другой сусветнай вайны. Сцены пакояў былі завешаны тагачаснымі плакатамі.

А адзін з экспанатаў вілы – шыкоўны шырокі ложак шчадралюбнага Мусаліні – выклікаў неадназначныя водгукі з боку гісторыкаў і наведнікаў музею.

Вядучы італьянскі даследчык гісторыі фашызму (само слова «фашызм» паходзіць ад італьянскага «фашыо», што значыць «саюз, аб'яднанне») прафесар Эміліо Джэнтылі мяркуе, што гэтая «экспазіцыя абуральная і неаб'ектыўная, бо яна спрабуе надаць фашысцкаму дучэ, якога можна назваць пачвараю, нейкае людскае аблічча».

У аўстрыйскім горадзе Браўнаў (федэральная зямля Верхняя Аўстрыя) на вуліцы Зальцбургер форштат у доме № 13, дзе нарадзіўся Адольф Гітлер, пра стварэнне музею пакуль ніхто не думае – у гэтым доме школа для разумова адсталых дзяцей. Але, каб турысты беспамылкова знаходзілі дом, дзе нарадзіўся нацысцкі «фюрэр», проста перад ім стаіць каменная глыба, надпіс на якой заклікае змагацца з фашызмам ува ўсіх яго праявах.

# Размініраванне – добры бізнес

*Штогод 100-150 мільёнаў даляраў выдаткоўваецца на размініраванне тэрыторыяў, на якіх адбываліся баявыя дзеянні. Гэта значны бізнес. На сённяшні дзень, па ацэнках спецыялістаў, прыблізна ў 70 краінах існуе мінная небяспека, і яна кожны год спраўджваецца для тысяч людзей. Але пры сённяшніх тэмпах размініравання працы сапёрам хопіць на 400 гадоў.*

Бізнес па размініраванні актывізаваўся ў 1980-я гады. Тады ўзніклі карпарацыі, у чыім штаце сёння не адна тысяча падрыхтаваных супрацоўнікаў. Як правіла, усе яны з'яўляюцца былымі афіцэрамі, якія апроч прафесійных навыкаў маюць і патрэбныя сувязі ў ваенных установах. Рэч у тым, што з'яўленне ў «гарачых кропках», дзе ўзнікае патрэба ў размініраванні, людзей з вопытам як мініравання, гэтак і размініравання, – гэта пытанне болей палітыкі, чым эканомікі. Бо ў выніку, апрача магчымасці шырокага збору інфармацыі пра становішча ў «гарачай кропцы», краіна, якая дэлегавала туды сваіх ветэранаў-сапёраў, атрымоўвае магутны рычаг уплыву.

Гэта, аднак, не пярэчыць высокай прыбытковасці сапёрнага бізнесу. Напрыклад, трохмесячны кантракт на размініраванне тэрыторыяў у Камбоджы, атрыманы фірмай *Handicap International* (Бельгія, Францыя) у 1997 годзе, быў заключаны на суму амаль 300 тысяч даляраў. Агульны бюджэт, выдзелены ААН на размініраванне Босніі ў 1988 годзе, склаў 11,8 мільёна даляраў. Адной з добрых замоваў апошняга часу лічыцца падрад у Паўднёвым Ліване: паводле папярэдніх звестак, у гэтым сектары чакаюць свайго часу 130 тысяч мін, і на іх ліквідацыю Ліга арабскіх дзяржаваў выдзяляе да 50 мільёнаў даляраў.

Аб размерканні долю на сусветным рынку можна меркаваць па наступным прыкладзе. У 1999 годзе ў Босніі і Герцагавіне было размініравана 3 156 003 квадратныя метры мінных палёў, пры гэтым знайшлі 1 001 міну і 815 іншых выбуховых прыстасаванняў. 20% працы выканалі грамадскія арганізацыі, а 80% – камерцыйныя кампаніі. Гуманітарным арганізацыям звычайна даюць кантракты на размініраванне вёсак, школаў і населеных пунктаў. Камерцыйныя фірмы атрымоўваюць падрады на ачыстку стратэгічных аб'ектаў – дарог, мастоў і да т.п. У апошнім выпадку грошы часцей за ўсё выдзяляюць міжнародныя фонды і донарскія арганізацыі (Сусветны банк, ААН і г. д.).

Найбуйнейшыя грамадскія арганізацыі ў галіне размініравання – англійская *HALO Trust* і італьянская *INTERSOS*. Самыя буйныя камерцыйныя кампаніі – гэта брытанскія і амерыканскія фірмы. У Англіі – *Defence Systems Limited* (*DSL*), якая налічвае 4 тысячы супрацоўнікаў, і *BACTEC International*. У ЗША – *Med-Eng Systems*, заснаваная ў 1981 годзе. Апроч таго, усё болей кантрактаў у апошні час атрымоўвае ізраільская кампанія «Маавалрым», створаная былымі афіцэрамі ЦАХАЛу (ізраільскай арміі) у 1995 годзе.

Для навічка патрапіць на рынак гуманітарнага размініравання – задача складаная. Напрыканцы мінулага году, напрыклад, дэлегацыя з расійскага «Эмеркому» вяла ў Іраку перамовы наконт кантракту на размініраванне пірсаў у Персідскай затоцы. Заказ расіянам не дастаўся. Цяпер гэтаму «Эмеркому» прапануецца паўдзельнічаць у працы, але на правах субпадраду. Вось такі тут жорсткі бізнес.

Для ўсходне-еўрапейскага сапёра паехаць куды-небудзь у Албанію абясшкоджваць міны – справа надта выгадная. За працоўны дзень там атрымоўваюць прыкладна 60 даляраў, у месяц можна зарабіць да 2 тысяч даляраў. Хоць зразумела, што занятак надзвычай складаны і рызыкоўны. Толькі ў Афганістане з 1990 году, па звестках міжнароднай праваахоўнай арганізацыі *Human Rights Watch*, загінулі 34 сапёры, а пашкоджанні цела атрымалі 544 чалавекі.

У заходніх кампаніях умовы працы прынцыпова іншыя: там вышэйшая аплата, ёсць дарагія страхоўкі. За раненне выплачваюць у сярэднім каля 200 тысяч даляраў, у выпадку гібелі родныя атрымоўваюць 100 тысяч даляраў. Ёсць і такая практыка: сапёры навучаюць размініраванню мясцовых жыхароў і выпускаюць іх у поле (пры гэтым плацяць, зразумела, менш, чым атрымоўваюць самі). У ААН гэтую методыку ўхваляюць: бо ў тым жа Афганістане трэба даць нейкі занятак мясцоваму насельніцтву, якое нічога іншага, апроч як ваяваць, рабіць не навучана.

Знішчэнне мінаў – справа даражэйшая, чым іх выраб. Сабекошт адной супрацьпяхотнай міны – каля 3 даляраў, супрацьтанкавай – каля 75-ці. А вось нейтралізацыя аднаго снарада каштуе як мінімум 300 даляраў, максімум жа дасягае 1 000-2 000 даляраў. Прэйскурант на размініраванне залежыць ад мноства ўмоваў: ад мясцовасці, ад краіны, ад аўтарытэту выканаўцы ды інш. Часцей цана прызначаецца за адзін ачышчаны квадратны метр, пры гэтым цэны вагаюцца ад 3 да 20 даляраў. Прызнаныя спецыялісты, вядома, стараюцца ўтрымліваць высокі ўзровень цэнаў на сусветным рынку, але прадстаўнікі бедных краінаў могуць дэмпінгаваць. Украінскія сапёры, напрыклад, па некаторых звестках, намагаліся збіць цэны ў 4-5 разоў.

Мільённыя сумы ў кантрактах абгрунтоўваюцца тым, што бізнес па размініраванні патрабуе буйных укладанняў. На абсталяванне трацішца да 60% атрыманых сродкаў. Касцюм сапёра, які адпавядае патрабаванням ААН і здольны вытрымаць выбух супрацьпяхотнай міны, каштуе каля 5 тысяч даляраў, мінашукальнік – 2-3 тысячы даляраў, вельмі дорага каштуе ўтрыманне службовых сабак, лепшыя з якіх ацэньваюцца ў 10-15 тысяч даляраў.

**Віктар БУЛГАКАЎ**
**Па матэрыялах замежнай прэсы**



Размініраванне 1 кв. метра зямлі каштуе да 20 даляраў

# Армія Вялікабрытаніі пабойваецца планаў Блэра

Брытанскія вайскоўцы папярэдзілі Тоні Блэра, што любая вайна супраць Іраку асуджана на няўдачу і прывядзе да страты жывой сілы дзеля нязначных палітычных карысцяў.

Калі разгарэліся дэбаты вакол пытання аб удзеле брытанскіх войскаў у аперацыі супраць Іраку, высокапастаўленыя вайскоўцы загаварылі пра «надзвычай асцярожнае» стаўленне да крокаў, якія могуць прывесці да вайны, перасцерагаючы, што Вялікабрытанія рызыкуе, беручы на сябе не абмежаваныя часам абавязанні.

Нагадваючы, што ўрад яшчэ павінен прыняць выразнае рашэнне аб прадастаўленні ваеннай дапамогі – ЗША запрасілі ў Вялікабрытаніі 25 тысяч салдат для ўдзелу ў аперацыі супраць Садама – крыніцы настойваюць на тым, што арабскія краіны, хутчэй за ўсё, не падтрымаюць нападу Захаду на Ірак, пакуль не будзе дасягнуты мір на Блізкім Усходзе.

На іх думку, без гэтага Саудаўская Аравія наўрад ці дазволіць выкарыстоўваць для аперацыяў супраць Садама свае ваенныя базы. Крыніцы ў міністэрстве абароны Вялікабрытаніі цвердзяць, што без дапамогі Саудаўскай Аравіі будзе цяжка арганізаваць працяглую аперацыю супольнага кантынгенту амерыкасніх і брытанскіх войскаў супраць Іраку.

Да ведама Тоні Блэра будзе даведзена, што сілы апазіцыі ў Іраку не такія моцныя, як у Афганістане, а ў Садама Хусейна няма патэнцыйнага пераемніка, які б задаволіў як Захад, так і суседзяў Іраку.

Урад Вялікабрытаніі ўжо прыступіў да заваёвання «сэрцаў і розумаў» у рамках падрыхтоўкі другой фазы антытэрарыстычнай аперацыі.

У дакуменце, распаўсюджаным міністэрствам замежных справаў Вялікабрытаніі, гаворыцца, што Садам павялічвае тэмпы вытворчасці зброі.

«Праграма Іраку па вытворчасці балістычных ракетаў паспяхова распрацоўваецца, а вытворчыя магутнасці, разбураныя ў 1998 годзе ў ходзе аперацыі «Пустынная лісіца», аднаўлены; не маючы магчымасці правесці інспекцыю, мы мяркуем, што Садам плануе павялічыць радыус дзеяння ракет уласнай вытворчасці, прадпісаны ЗША, за 150 кіламетраў.

Мы лічым, што Ірак працягвае вытворчасць біялагічнай і хімічнай зброі».

# Хто выкрадаў аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага?

*14 сакавіка Мінскі абласны суд вынес прысуд па справе «банды Ігнатовіча», якая абвінавачвался ў здзяйсненні сямі злачынстваў, у тым ліку – выкраданні ў ліпені 2000 году аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Якраз гэты эпізод абвінавачання выклікаў вялікую ўвагу грамадскасці да гэтай справы і ў Беларусі, і за яе межамі.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Дзмітрый Завадскі

У выкраданні Дзмітрыя Завадскага абвінавачваліся і атрымалі пакаранне – пажыццёвае зняволенне – былыя байцы спецпадраздзялення «Алмаз» Валеры Ігнатовіч і Максім Малік. Суд прызнаў віну іх даказанай, аднак родныя Завадскага – ягоная маці і жонка – выказалі сумнеў у тым, што менавіта гэтыя людзі вінаватыя ў знікненні Дзмітрыя, і разглядаюць вынікі суду як спробу адрапартаваць, што справядлівасць перамагла і злачынцы пакараныя.

Сумняваецца ў дачыненні Ігнатовіча і Маліка да выкрадання аператара ОРТ і адвакат Сяргей Цурко, які на судовым працэсе прадстаўляў інтарэсы жонкі Дзмітрыя Завадскага Святланы. Гэты сумнеў ён выказаў, выступаючы ў судзе: «У мяне па кожным прад'яўленым доказе абвінавачання няма выразнай яснасці ў вінаватасці Ігнатовіча і Маліка. Літаральна па кожным факце сумневы, і гэтыя сумневы грунтуюцца не столькі на парушэннях (КПК РБ. – **Рэд.**), але ў асноўным на даволі супярэчлівых ды блытаных паказаннях сведкаў як падчас следства, так і ў судзе... І, як мне здаецца, засталося нявырашаным галоўнае пытанне для маёй даверніцы Святланы Завадскай – што адбылося з яе мужам, бацькам іх сына, дзе ён зараз? Мяркую, што ўвесь ход судовага працэсу не змог знайсці адказу на дадзенае пытанне. Прыняць версію абвінавачання не магу, лічу яе недастаткова пераканаўчай паводле наяўных фактаў».

Такія высновы адвакат робіць, аналізуючы выкладзеныя падчас судовага разбору факты, датычныя да выкрадання Д.Завадскага. Адразу ж спадар Цурко адзначае, што ён не меў магчымасці рабіць аналіз усіх фактаў па справе, паколькі быў пазбаўлены, і, на ягоную думку, незаконна, магчымасці браць удзел у даследаванні матэрыялаў справы з закрытых тамоў з-за адсутнасці допуску да дзяржаўнай таямніцы.

«Перш за ўсё агаваруся, – сказаў у сваёй прамове прадстаўнік пацярпелай, – што абвінавачаныя мне не сімпатычныя, але, наколькі гэта магчыма, пастараюся быць аб'ектыўным і бесстароннім... Пастараюся зыходзіць з сухога аналізу наяўных доказаў, вядома, праз прызму крымінальна-працэсуальнага заканадаўства».

Вось як развіваліся падзеі, пачынаючы з дня напярэдадні выкрадання:

«Дзень 06.07.2000 г. Тэлефонны званок Дзмітрыю Завадскаму з Масквы ад Паўла Шарамета з просьбай сустрэць яго на аўтамабілі 07.07.2000 г. у аэрапорце «Мінск-2», бо Шарамет прылятае ў Мінск. Як устаноўлена ў судзе, Д.Завадскі часта сустракаў Шарамета, калі той прылятаў у Мінск.

Дзень 7 ліпеня 2000 г. Раніца. Дзмітрый з'язджае з дому пасля 10 гадзінаў. З'язджае на аўтамабілі «Шкода Форман» дзяржнумар 0318. Як паказваюць сведкі, Дзмітрый сеў у аўтамабіль адзін і паехаў.

Дарога ў аэрапорт «Мінск-2». Зыходзячы са шматлікіх рапартаў супрацоўнікаў міліцыі, тлумачэнняў грамадзянаў, па дарозе ад Мінску да аэрапорту «Мінск-2» ніхто нічога неардынарнага не бачыў, а значыць, Дзмітрый Завадскі, як мяркуецца, даехаў да аэрапорту і, магчыма, прыпаркаваў аўтамабіль там, дзе ён пазней быў знойдзены Паўлам Шараметам – насупраць міжнароднай залі прылёту і адлёту.

Два сведкі: Дзейнар А.В., супрацоўнік ДАІ УУСТ аэрапорту, і старшы інспектар дзяжурны УУСТ аэрапорту паказалі, што аўтамабіль Д.Завадскага з'явіўся ў аэрапорце пасля 10 гадзінаў 7 ліпеня 2000 году. Праўда, як вынікае з паказанняў інспектара дзяжурнага, у 10.45 ён з'язджаў дадому пасля змены, і аўтамабіля Д.Завадскага ў аэрапорце яшчэ не было. Тут некаторая недакладнасць, часавае разыходжанне ў паказаннях сведкаў. Так, зыходзячы з паказанняў Дзейнара, пасля таго, як ён атрымаў інфармацыю адносна пошукаў Д.Завадскага шляхам апытання вадзіцеляў, якія знаходзіліся ў той дзень у аэрапорце, ім быў устаноўлены вадзіцель аўтамабіля «Опель», колеру металік. Дык вось, са словаў дадзенага вадзіцеля, аўтамабіль Д.Завадскага з'явіўся ў аэрапорце пасля 10 гадзінаў. На жаль, звестак пра вадзіцеля, прозвішча, імя, нумару аўтамабіля афіцэр Дзейнар чамусьці не запісаў. Засталося нявысветленым, ці бачыў гэты вадзіцель, хто пад'ехаў на аўтамабілі, а якой гадзіне дакладна быў прыпаркаваны аўтамабіль... Я зыходжу з матэрыялаў справы. У іх няма звестак, што нехта спрабаваў знайсці гэтага важнага сведку, які, магчыма, дапамог бы адказаць на пытанне: ці даехаў Дзмітрый Завадскі да аэрапорту, або ён быў кімсьці перахоплены па дарозе ў аэрапорт?

Далей, прылёт Шарамета рэйсам з Масквы. Пасля выхаду з самалёту і з будынку аэрапорту Шарамет на звычайным для яго месцы ўбачыў аўтамабіль Д.Завадскага. Аўтамабіль быў зачынены, Дзмітрыя не было.

Тут папрашу звярнуць увагу, Высокі суд, на звычайную дамоўленасць паміж Д.Завадскім і П.Шараметам, якая была дасягнутая раней, калі Дзмітрый сустракаў Шарамета ў аэрапорце «Мінск-2», – ставіць аўтамабіль на тым месцы, дзе ён быў знойдзены 7 ліпеня 2000 году, г.зн. насупраць міжнароднай залі прылёту. Аб гэтай дамоўленасці, зыходзячы з паказанняў Шарамета, практычна ведалі толькі 2 чалавекі: сам Дзмітрый Завадскі і П.Шарамет. Гэта вельмі важна пры высвятленні ўсіх абставінаў таго, што адбылося...»

Адвакат Цурко звяртае ўвагу на вельмі важную акалічнасць: падчас агляду аўтамабіля зніклага аператара ў салоне не было знойдзена адбіткаў пальцаў Завадскага, як і любых іншых адбіткаў – іх нехта выцер. Эксперт Кажушко, які апрацоўваў аўтамабіль крыміналістычным парашком, засведчыў гэта на судзе. Гэты ж сведка паказаў, што пры аглядзе аўтамабіля была знойдзеная аўтамагнітола, якая ляжала пад сядзеннем пасажыра спераду, справа. На аўтамагнітоле таксама не было ніякіх адбіткаў пальцаў, яны былі сцёртыя. Адвакат заявіў: «Тут паўторна прашу звярнуць Вашу ўвагу, Высокі суд, на тую акалічнасць, што аб звычцы Дзмітрыя пры выхадзе з аўтамабіля даставаць з прыборнай панелі магнітолу і хаваць яе пад сядзеннем пасажыра спераду ведала абмежаваная колькасць людзей: сам Дзмітрый, ягоная жонка Святлана і Павел Шарамет. Такім чынам, калі рабіць высновы аб пачатковым эпізодзе трагедыі, зыходзячы з паказанняў сведкаў і перш за ўсё эксперта крыміналіста Кажушко, то Дзмітрый Завадскі не даехаў да аэрапорту.

І тут узнікае адно з асноўных пытанняў: дык хто ж мог паставіць аўтамабіль, акрамя Дзмітрыя, хто яшчэ, акрамя Святланы і Шарамета, мог ведаць пра дамоўленасць паміж Дзмітрыем і Шараметам ставіць аўтамабіль у вызначаным месцы і пра ягоную звычку хаваць магнітолу?.. У матэрыялах справы няма дакладных сведчанняў таго, што за Дзмітрыем доўгі час вялося назіранне, што за ім сачылі, што нехта цікавіўся не толькі маршрутамі яго перамяшчэння, але і звычкамі. Ніхто да блізкіх і знаёмых Дзмітрыя Завадскага з падобнымі пытаннямі, якія, напэўна, запомніліся б як дзіўныя, не падыходзіў і іх не задаваў... І як жа адказаць на пытанне – хто паставіў аўтамабіль Дзмітрыя ў аэрапорце? Лічу, на следстве і ў судзе адказу на яго не атрымалі, нягледзячы на версію абвінавачання, якая выкладзеная ў пастанове аб прыцягненні Ігнатовіча і Маліка ў якасці абвінавачаных. Можна меркаваць – гэта быў той, хто не баяўся, што яго заўважаць, што яго могуць спыніць супрацоўнікі ДАІ ці нехта яшчэ. Гэта мог быць чалавек, які валодае пэўнымі ўладнымі функцыямі (прадстаўнік сілавых органаў) ці мае адносіны да аўтамабіля праз арганізацыю, дзе працаваў Дзмітрый Завадскі. Паўтараю – гэта меркаванне на падставе аналізу фактаў. На следстве і ў судовым паседжанні на гэтае пытанне ніхто не адказаў».

Асаблівую ўвагу С.Цурко звяртае на адзін з асноўных рэчавых доказаў вінаватасці Ігнатовіча і Маліка, які быў прадстаўлены следствам суду, – рыдлёўку з біялагічным матэрыялам Дзмітрыя Завадскага. Адвакат аналізуе пратаколы агляду аўтамабіля затрыманых. Аглядаў праводзілася тры: 3, 4 і 15 жніўня 2000 году. Пры першым аглядзе ў аўтамабілі была знойдзеная рыдлёўка, але ў пратаколе не адлюстраванае ні месца, дзе яе знайшлі, ні памеры. Пры паўторным аглядзе аўтамабіля Ігнатовіча праводзілася фатаграфаванне прадметаў, што былі там выяўленыя, аднак на прадстаўленых экспертам фотаздымках у матэрыялах справы здымка рыдлёўкі няма. Пры трэцім аглядзе, як засведчыла ў судзе адна з панятых, рыдлёўку дасталі з багажніка аўтамабіля, але пры гэтым яна не памятала, ці была перад гэтым машына апячатаная. У матэрыялах справы ёсць таксама пратаколы допытаў у якасці сведкаў супрацоўнікаў міліцыі Краснадарскага краю, дзе затрымалі Ігнатовіча і Маліка. Гэтыя сведкі паказалі на дадатковыя запыты следства, што рыдлёўкі пры аглядзе аўтамабіля Ігнатовіча не было.

На дадатак да выкладзеных акалічнасцяў адвакат Цурко адзначае, што пры атрыманні і замацаванні такога важнага рэчавага доказу, як рыдлёўка, следства дапусціла парушэнні Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ: панятымі былі супрацоўнікі аднаго ведамства – МУС, што забаронена арт. 64 дадзенага кодэксу, бо яны асобы зацікаўленыя. Такім чынам, лічыць адвакат, спасылаючыся на ч. 3 арт. 8 КПК РБ, гэты доказ не мае юрыдычнай сілы, бо атрыманы з парушэннем вызначанага парадку, а ч. 5 арт. 105 КПК РБ замацоўвае палажэнне, што доказы, атрыманыя з парушэннем закону, не могуць быць пакладзеныя ў аснову абвінавачання.

На заканчэнне сваёй прамовы прадстаўнік пацярпелай Святланы Завадскай сказаў: «Вядома, такая пазіцыя можа выклікаць здзіўленне, а часам і раздражненне. Але, Высокі суд, выступ у такім ракурсе прадыктаваны не толькі імкненнем быць аб'ектыўным, але і, я б сказаў, дэвальвацыяй прафесіі юрыста. Заніжэннем у цэлым па краіне патрабавальнасці да прафесійных і асабістых якасцяў юрыстаў (асабліва ў праваахоўных органах), калі патрабаванні строгага выканання закону, выключэння нават найдрабнейшых яго парушэнняў на практыцы ігнаруюцца, а часам з маўклівай згоды грамадства «падтрымліваюцца». Не сакрэт, што ў апошні час шмат крымінальных справаў, што накіроўваюцца на разгляд у суды, не адпавядаюць патрабаванням закону і ўсебаковасці, паўнаты і аб'ектыўнасці расследавання. Адсюль, як слушна адзначыў прадстаўнік дзяржаўнага абвінавачання на хадайніцтва прадстаўніка Вольгі Рыгораўны (маці Д.Завадскага. – **Рэд.**), выкарыстанне судовай трыбуны дзеля палітычных мэтаў. Але гэта часта адбываецца ў выніку нездавальняючай працы па расследаванні справаў, каб кампенсаваць недапрацоўкі следства, парушэнні закону пры расследаванні. Гэта не наша віна, а бяда.

На падставе сказанага мяркую, што віна абвінавачаных Ігнатовіча і Маліка ў выкраданні аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага не даказаная».

**Падрыхтавала Т.РЭВЯКА**

***P.S.*** Цалкам з прамовай адваката С.Цурко можна азнаёміцца на сайце ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна»: *www.spring96.org* (руская старонка).



Баец спецпадраздзялення «Алмаз» В.Ігнатовіч



Фота IREX/ProMedia

Падчас вынясення прыгавору: В.Ігнатовіч (ляжыць) і М.Малік

## Камп'ютэр для паралізаваных

Даследчыкі Універсітэту Брауна (ЗША) распрацавалі сістэму, каб рэгістраваць, расшыфроўваць і рэканструяваць дзейнасць мозгу, якая кантралюе рухальную актыўнасць рук. Было паказана, што адной толькі сілай думкі можна прымусіць курсор рухацца на экране манітору да загаданай кропкі. У будучыні гэтая вынаходка можа стаць вельмі карыснаю для паралітыкаў. Даследаванне, вынікі якога былі апублікаваныя ў апошнім нумары часопісу *Nature*, праводзілася на малпах. Тыя атрымалі мазгавыя імплантанты, падобныя да тых, што выкарыстоўваюцца пры лячэнні некаторых пацыентаў з хваробаю Паркінсона. У выніку даследавання ўдалося замяніць рухі, якія выконваюць рукі, на рухі, якія выконвае думка. Пры дапамозе разумовых высілкаў малпы курсор перасоўваўся на экране манітора. Гэты унікальны выпадак, першы эксперымент у гэтай галіне.

Навукоўцы дамагліся гэтага, рэканструяваўшы сігнал, які дазваляе галаўному мозгу выконваць дзеянні над канкрэтным аб'ектам. Яны скарысталі групу электродаў, каб зафіксаваць, што адбываецца з мозгам у той момант, калі рука націскае на клавішы клавіятуры. З дапамогай камп'ютэра навукоўцы расшыфравалі мазгавую актыўнасць і паўтарылі гэтае дзеянне, выкарыстоўваючы толькі дзейнасць мозгу, без руху рук. Праведзеная праца – важны крок наперад, бо ён дазволіць паралізаваным людзям перасоўваць курсор па манітору выключна сілай думкі.

Чакаецца, што гэтая тэхналогія зможа выкарыстоўвацца і для ўзнаўлення кантролю над некаторымі відамі рухальнай актыўнасці ў паралізаваных пацыентаў або ахвяраў траўмаў хрыбетніка.

**El Mundo, Іспанія**

## Курцоў навучаюць культуры

Сіднейскіх курцоў чакаў нядаўна сюрпрыз – ім бясплатна выдавалі партатыўныя попельніцы ў рамках кампаніі па барацьбе за чысціню вуліц горада. Гэтая кампанія праводзіцца арганізацыямі «Сідней-сіці» і «За чыстую Аўстралію»; яе мэта – ачыстка дзелавога раёну мегаполісу. У ходзе кампаніі па будынках будуць размешчаны попельніцы і знакі, якія забараняюць кідаць смецце, а таксама будзе праведзена шырокая адукацыйная праграма. Колькасць людзей, якія засмечваюць горад недапалкамі, знізіцца, як мяркуюць, на 2 тыс. чалавек.

Арганізацыі таксама падалі такую інфармацыю для роздуму: амаль палова смецця ва ўсіх вялікіх гарадскіх раёнах так ці інакш звязана з тытунёвымі вырабамі – гэта не толькі недапалкі, але і цэлафанавыя абгорткі, фольга і пустыя пачкі. Ва ўсім свеце штогод курцы выкідаюць на ходнікі 4,5 трыльёна недапаленых цыгарэтаў, а толькі ў адной Аўстраліі пасля іх застаюцца 32 млрд. кінутых недапалкаў. Калі толькі іх выкласці адзін за адным, то агульная працягласць складзе 640 тыс. кіламетраў. Гэтага дастаткова, каб аперазаць Зямлю 16 разоў. Толькі ў аўстралійскім штаце Новы Паўночны Уэлс штогод выкідаюцца 9 млрд. бычкоў, якімі можна аперазаць планету 4,5 разы.

Недапалкі былі знойдзены ў страўніках маладых птушак, марскіх чарапах і іншых марскіх жывёлін. Маленькія дзеці таксама спрабуюць з'есці цыгарэтныя рэшткі, якія ім трапляюцца. Для таго, каб фільтр цалкам расклаўся, патрэбна 15 гадоў, хоць вытворцы запэўніваюць, што на гэта неабходна толькі 1-2 месяцы. А бывае, што недапаленыя цыгарэты ляжаць у адкрытай прыродзе і 36 месяцаў – калі трапляюць у марскую ваду.

Цяпер у Аўстраліі праводзіцца шырокамаштабная кампанія, накіраваная на ачыстку краіны ад смецця. За выкіданне ўпакоўкі ад цыгарэтаў і саміх цыгарэтаў спаганяецца штраф у памеры 30 даляраў, запаленых цыгарэтаў у небяспечных умовах – 185 даляраў з прыватных асобаў і 375 даляраў з карпарацыяў. За выкіданне з аўтамабіля любога вырабу, які мае дачыненне да тытуню, спаганяецца 100 даляраў з асобаў і 200 – з карпарацыяў.

**Васіль РАМАНЦОЎ**

## Санкцыі супраць Васіля Панкова

Санкцыі ў дачыненні да хакеіста нацыянальнай зборнай Беларусі Васіля Панкова будуць уведзены на працягу тыдня. Пра гэта паведаміў генеральны сакратар Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі Анатоль Іваноў. Як паведамлялася, пасля заканчэння матчу за трэцяе месца паміж зборнымі Беларусі і Расіі на алімпійскім хакейным турніры ў Солт-Лэйк-Сіці ў В.Панкова ўзялі пробу на допінг, якая дала станоўчы вынік: у аналізе спартсмена выявілі забароненае рэчыва нандрастэрон. Па просьбе спартсмена медыкі даследавалі другую капсулу з аналізам – вынік аказаўся такі самы.

15 і 16 сакавіка ў штаб-кватэры МАК у Лазане (Швейцарыя) для дачы тлумачэнняў знаходзілася беларуская дэлегацыя ў складзе Анатоля Іванова, віцэ-прэзідэнта НАК Мікалая Ананьева, галоўнага доктара Рэспубліканскага дыспансера спартыўнай медыцыны Яўгена Ласіцкага і самога Васіля Панкова. Паводле словаў А.Іванова, усю адказнасць за здарэнне ўзяў на сябе Я.Ласіцкі: «Ён пацвердзіў, што даваў Панкову харчовую дабаўку іназін. Гэтая ж дабаўка, якую выкарыстоўвала шорт-трэкаўка Юлія Паўловіч, што ледзь не папала на Алімпіядзе пад санкцыі за прымяненне допінгу. Іназін дадавала ў ежу і фігурыстка Юлія Салдатава, аднак на допінг-кантроль яна не выклікалася. Гэтую дабаўку нашы спартсмены выкарыстоўваюць не першы год, і пытанняў ніколі не было. Як у ёй апынулася забароненае рэчыва – незразумела. Мы маглі б выставіць прэтэнзіі вытворцу, аднак іназін купляюць у Мінску ў пасярэднікаў». Сам В.Панкоў заявіў у Лазане, што яго справа – гуляць, і прынясце рашэнняў наконт прымянення тых ці іншых аднаўленчых прэпаратаў – не ў яго кампетэнцыі.

«Чальцы дысцыплінарнай камісіі і працоўнай групы, якая даследавала абставіны ўжывання спартсменам допінгу, з разуменнем паставіліся да нашай сітуацыі, аднак заявілі, што іх цікавяць не абставіны, а сам факт ужывання допінгу», – сказаў А.Іваноў. Паводле ягоных словаў, МФХ будзе вырашаць пытанне аб дыскваліфікацыі хакеіста на нейкі перыяд, а МАК – аб яго пакаранні на мінулай Алімпіядзе.

**Дмітрый УЛАСАЎ**

# Самыя папулярныя імёны ў Мінску

*Якія імёны цяперашнім часам самыя папулярныя ў Беларусі, у прыватнасці ў сталіцы? Здавалася б, пра гэта можна меркаваць па тым, як твае знаёмкі і знаёмцы называюць сваіх дзяцей. Каб высветліць, як яно ёсць насамрэч, я накіраваўся ў ЗАГС. Ішоў я туды перакананы, што ў Мінску цяпер дзяўчатак найчасцей называюць Насцямі. Што да хлопчыкаў, то тут я аддаваў першае месца Мікітам.*

Як выявілася, гэтых загаданых мною імёнаў няма на першых месцах у рэйтынгах па папулярнасці, але ў тройку лідэраў яны ўваходзяць. Але ж якія імёны перамаглі? З рэйтынгамі па раёнах беларускай сталіцы ў 2001 годзе мяне пазнаёміла супрацоўніца ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкаму Алена Андрушкевіч. У Савецкім раёне гораду, напрыклад, самымі папулярнымі імёнамі, якімі называюць нованароджаных, сталі Кацярына і Уладзіслаў. У Ленінскім раёне – Анастасія і зноў-такі Уладзіслаў.

Калі ж падвесці вынікі па ўсіх дзевяці раёнах Мінску, то сярод жаночых імёнаў перамагла Кацярына. Гэта самае папулярнае імя ажно ў чатырох сталічных раёнах. Далей па распаўсюджанасці ідуць Дар'і (перамога ў двух раёнах), Анастасіі, Аляксандры. Што да хлапечых імёнаў, дык тут усіх апярэдзіў Уладзіслаў, які таксама, як і Кацярына, перамог у чатырох мінскіх раёнах. Трохі адстаў Аляксей – у трох. І ўжо за імі – Мікіта з Аляксандрам.

Але гэта мода толькі аднаго – леташняга – году. Апрача згаданых імёнаў, у апошнія 3-4 гады беларусы часта называюць сваіх дзяцей яшчэ Міколамі, Віктарамі, Янінамі ды Алесямі; нярэдка працягваюць даваць немаўлятам імёны з ліку самых папулярных у XX стагоддзі: Сяргей, Іван, Алена, Марыя ды Ганна. Па сведчанях супрацоўніц ЗАГСаў, пакрысе сыходзіць мода на дужа папулярныя з канца 1980-ых гадоў Раманаў, Мікітаў, Крысцін, Маргарыт, Яўгенаў і Яўгеніяў, якія выглядалі на фоне занадта частых Андрэяў, Сяргееў, Вольгаў, Таццян арыгінальнымі ды «шляхетнымі».

На жаль, так званага нацыянальнага каларыту не аказалася. Яніны, Яны, Алесі з'яўляліся досыць часта, а вось Стахі ды Вальжыны, напрыклад, білі па вушах. Падобнымі старажытнымі беларускімі імёнамі называлі і называюць сваіх дзяцей і ўнукаў людзі, ангажаваныя ў нацыянальны адраджэнскі рух, нашая інтэлігенцыя. Напрыклад, унучку народнага паэта Рыгора Барадуліна клічуць Дамінікай, сына галоўнага рэдактара газеты «Наша Ніва» Андрэя Дынько – Якубам.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Досыць цікава, чым абумоўлена папулярнасць пэўнага імені ў той ці іншы час? Чаму сярод народжаных летась у Мінску самымі распаўсюджанымі былі імёны Кацярына і Уладзіслаў? Відаць, тут не спрацоўвае прынцып называння дзяцей імёнамі вядомых, папулярных асобаў у краіне, як тое было ў Савецкім Саюзе ў 1920-ыя гады, калі дзякуючы Леніну надзвычай папулярным – і з досыць значным адрывам ад астатніх – стала мужчынскае імя Уладзімір. У 60-ыя, 70-ыя гады мінулага стагоддзя хоць і не выйшла на першае месца, але рэзка набыло распаўсюджанасць імя Юрый – вядома, пасля палёту чалавека ў космас.

А можа, вядучая праграмы «Каралеўскае паляванне» на Беларускім тэлебачанні Кацярына Дзямчук ці алімпійская чэмпіёнка па акадэмічным веславанні Кацярына Карстэн і спрычыніліся да таго, што ў Мінску сёння мода на Кацяў? Тады можна ўявіць сабе, што Уладзіславамі сваіх сыноў многія менчукі называюць у гонар расійскага актора Уладзіслава Галкіна, пагледзеўшы фільм «У жніўні 44-га...» Але хутчэй за ўсё папулярнасць імёнаў Кацярына і Уладзіслаў палягае ў іншым: час ад часу ўтвараюцца такія хвалі, калі модным становіцца нейкае «незацёртае» імя, а знікае гэтая мода, калі фаварыт пачынае страчваць навізну.

У Нямеччыне апошнім часам самыя папулярныя імёны – гэта Герхард, Аляксандр, Генрых, Максіміліян, Анна, Эльза, Марта, Катарына, у Англіі – Джон, Джэк, Томас, Джэймс, Барбара, Маргарэт, Эмілі, Хлоя, у ЗША – Майкл (стаіць на першым месцы вось ужо 40 гадоў), Нікалас, Джэкаб (увайшлі ў першую «пяцёрку па папулярнасці толькі ў апошнія 10 гадоў), Мэт'ю, Джордж, Алан, Эшлі, Кэйтлін, Эмілі, Ханна, Сара.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Не піць піва ў Чэхіі – дарагое хобі

Ведаюць гэта ўсе, хто жыве ў гэтай краіне. Хочаце спакойна пачытаць газету, напісаць ліст ці пра нешта падумаць – хутка знаходзіце ўтульную кавярню альбо бар і думаеце, што замовіць. Піва? Калі збіраецеся засяродзіцца на нечым, то хутчэй захочаце нечага безалкагольнага. Але прабежыце вачыма меню, і нічога таннейшага за піва не знойдзеце. Кава, чай, кока-кола, мінералка ды проста газіроўка паўсюль будуць каштаваць у найлепшым выпадку столькі ж, а ў большасці выпадкаў даражэй за паўлітра свежага лёгкага (10%) піва. У Чэхіі з гэтага ніхто не дзівіцца. Але тое, што чэхі лічаць нармальным, выклікае вялікае здзіўленне ў замежнікаў. У свеце, напэўна, няма іншай краіны, дзе б сістэма цэнаў гэтак біла па кожным, хто не хоча алкаголю.



### Піва – наш хлеб

Не трэба адразу сцвярджаць, што цэнамі можна вымяраць алкагалізацыю краіны, але ўплыў ёсць. Большыню замежнікаў шакуе тое, што ў чэшскай кавярні чай даражэйшы за піва, бо ў іншых краінах ён у два, тры, чатыры разы таннейшы. Тут і крыецца адна з прычын, чаму, напрыклад, студэнты п'юць піва ўвесь час. Прабавіўшы дзве гадзіны ў піўніцы, яны заплацяць прыблізна 80 кронаў (2 даляры). А колькі б яны заплацілі за дзве гадзіны спажывання чаю, кока-колы, мінералкі ці соку? Не менш як 160 кронаў. Ці вінавата ў гэтым дэфармацыя цэнаў? Толькі ўскосна. Чай са звычайнага пакецiку, купленага ў краме за 1,5 кроны, у кавярні каштуе ўжо 20 кронаў. Колькі ж на гэтым зарабляе сама кавярня? Гаспадары кажуць: чай так дарагі таму, што гэтым кампенсуюць нізкія цэны на піва. Півавары, у сваю чаргу, кажуць, што цэны абумоўленыя рынкам. Гэта праўда, што малыя броварыі маюць падатковыя льготы, але на агульны выраб у 18 мільёнаў гекалітраў яны ўплываюць слаба, так што тыя льготы не адбіваюцца на канчатковай цане. Спажыванне піва ў Чэхіі (160 літраў на аднаго чалавека ў год) дасягнула ўжо сваёй крытычнай мяжы і расці далей не будзе. Хутчэй наадварот. У будучыні будуць расці нескарыстаныя магутнасці бровараў – сёння гэта 4 мільёны гекалітраў у год, што, разам са зменай стылю жыцця (працоўныя ўжо не сядзяць увесь дзень у піўніцы), паўплывае на спажывецкую мараль, а гэта, у сваю чаргу, знізіць попыт, і адпаведна вырастуць цэны. Цяпер чэхі праходзяць тую ж дарогу, якою крочылі 11 год таму, у адваротным напрамку – да лібералізацыі цэнаў: свабодныя цэны на харч змянілі спажывецкія звычкі грамадзянаў (чэхі пачалі, да прыкладу, ашчаджаць хлеб). Таму цяперака пакупнікі могуць паўплываць і на піўныя цэны. Але гэта будзе слаба адбівацца на вострай канкурэнцыі паміж броварамі. Уладальнікі піўніцаў і кавярняў увогуле выходзяць з сённяшняй рэчаіснасці, якая адпавядае знакамітаму выразу Васіля Біляка 80-х гадоў: «Піва – гэта наш хлеб». Нават пры камуністах дзейнічала правіла, што ўрад, які падвысіць цэны на піва, – сыдзе ў адстаўку; гэта пацвердзіў выпадак з Антанінам Новатным. Таму і спажываецца агромністая колькасць піва – не толькі ў піўніцах, але і ў танных кавярнях. А ў выніку словы Біляка праз два дзесяцігоддзі ні на драбніцу не страцілі сваёй актуальнасці. Чэхія сёння трымае ў свеце першынство па спажыванні піва на аднаго чалавека і па ягонай таннасці ў параўнанні з іншым таварамі.

### У іншых – лепей

Глянем, як гэта выглядае ў іншых краінах. Праўда, дакладна параўнаць немагчыма, бо краіны розняцца не толькі стылем харчавання, узроўнем цэнаў ці падаткаў, але і гісторыяй развіцця піўніцаў і кавярняў. Так, Польшча, падзеленая некалі паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй, да сённяшняга дня мае тры розныя традыцыі піўных бараў. Напрыклад, у Варшаве, пад расійскім уплывам, танных піўніцаў амаль няма, у адрозненне ад Кракава з традыцыяй манархіі Габсбургаў. У выніку мы бачым, што ўсю Еўропу нельга вымяраць нейкім адным, універсальным крытэрыем, але што датычыць выбару танных безалкагольных напояў, то ў ніякай іншай краіне вы не сутыкнецеся з такімі праблемамі, як у Чэхіі.

**Збынек ПЕТРАЧАК**
**Respekt**
**Пераклаў Ілля ГЛЫБОЎСКІ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1135 Нумар падпісаны ў друк 19/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760